# ПАМЯТКА ПАЛЯВОДА-СЬВІНАВОДА

**„Для пасьпяховага вырашэньня мясной праблемы, пастаўленай партыяй і ўрадам, 3-я бальшавіцкая вясна павінна поўнасьцю падвесьці кармавую базу, забясьпечыць бальшавіцкія тэмпы разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Стварэньне кармавой базы зьяўляецца рашаючай умовай пасьпяховага разгортваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных фэрм“.** (З адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Поўнасьцю забясьпечыць сьвінасаўгас і сьвінафэрму патрэбнай колькасьцю кармоў—баявая задача кожнага палявода-сьвінавода ў трэцюю бальшавіцкую вясну.

Памятай, што сьвіней трэба карміць увесь год у асноўным кармамі сваёй гаспадаркі. Засявай культуры, якія б забясьпечылі найвышэйшы ўраджай і далі-б найлепшы па якасьці корм для сьвіней.

1) Прапрацуй пастанову ЦК КП(б)Б і СНКБ аб правядзеньні веснавой сельскагаспадарчай кампаніі 1932 г., на падставе гэтага складзі канкрэтны плян правядзеньня гэтай кампаніі.

2) Каб ведаць, на якой плошчы і што пасеяць, гаспадарка павінна мець земляўпарадкаваныя плошчы з разьбіўкай палёў на правільны севазварот. Калі гэтага яшчэ ня зроблена, зараз-жа зьвяжыся з зямельнымі органамі і правядзі гэтую працу да пачатку сяўбы.

3) Увесь сельскагаспадарчы інвэнтар, цяглі і вупраж павінны быць у спраўнасьці і абавязкова прымацаваны да паасобнага калгасьніка. Зьнішчы абязьлічку.

4) Заключы ўмовы з снабжаючымі і будаўнічымі арганізацыямі на будаўніцтва сьвінарнікаў і іншых памяшканьняў, на насеньне, штучнае ўгнаеньне, гаручыя і змазачныя матар'ялы і інш. Памятай, што незаключыўшым умовы нічога ня будзе выдавацца.

5) Забясьпеч выкананьне пастановы партыі і ўраду аб павышэньні ўраджайнасьці. Правядзі ў жыцьцё наступныя агратэхнічныя мерапрыемствы:

а) насенны матар'ял у колькасьці, прадугледжанай па прамфінпляну і пляну веснавой сяўбы, павінен быць забраніраван і захаван у добрым хавальніку. Хавальнікі павінны быць сухімі і добра праветрывацца, устанавіць нагляд за становішчам захаваньня зерня кукурузы і лубіну, таму што гэтае зерне вельмі кепска захоўваецца і часта псуецца ад вільгаці, зьлежанасьці і г. д;

б) арганізуй 100 процантную ачыстку і сартыроўку насеньня. Памятай, што добрае насеньне павышае ўраджай на 8—10 проц.;

в) калі гаспадарка ня мае ўласнага гатунковага насеньня, безадкладна зьвярніся да раённага зямельнага аддзелу і снабжаючых каапэрацыйных арганізацый і дагаварыся аб замене звычайнага насеньня на гатунковае. Памятай, што гатунковае насеньне павышае ўраджай;

г) не спазьніся з пасевам, бо раньнія пасевы падвышаюць ураджайнасьць;

д) кожная сацыялістычная гаспадарка абавязкова павінна вытварыць пасевы радковымі сеялкамі. Радковыя пасевы значна падвышаюць ураджайнасьць;

е) перад пасевам, абавязкова насеньне трэба пратруціць ад сажы. Памятай, што сажа—біч для расьліны: кукурузы, пшаніцы, аўсу і інш. Таму барацьба з ёй павінна быць асабліва ўпартая;

ж) адным з асноўных сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці—угнаеньне. Гной трэба вывозіць на поле ўзімку, бо цягавая сіла вясной будзе занята па падрыхтоўцы глебы. Поўнасьцю забясьпеч у першую чаргу ўгнаеньнем пасевы каранеклубнеплодаў (бульбы, буракоў, морквы і інш.);

з) поўнасьцю забясьпеч атрыманьне штучнага ўгнаеньня па прамфінплану і своечасова яго перавязі ў гаспадарку;

і) попел зьяўляецца добрым калійным угнаеньнем і значна падвышае ўраджайнасьць. Попел можна ўносіць пад кармавыя расьліны, карнеклубнеплоды, гарох, віку і інш. За 2-3 тыдні да пасеву расьсявай у колькасьці 4—8 цнт на гэктар, зьбірай і захоўвай попел у скрынках у сухім выглядзе;

к) правядзі вапнаваньне глебы. Вапна на падзолістых глебах падвышае ўраджай;

л) ужывай торф па угнаеньне. Перапрэўшы торф замяняе звычайны гной, а гэта пры вялікай колькасьці торфу ў БССР можа значна павысіць ураджайнасьць калгасных палёў;

м) правільная апрацоўка глебы зьяўляецца залогам павышэньня ўраджайнасьці. Пры ўзворваньні ўсе барозны павінны быць аднолькавай глыбіні. Менш рабіць грабнёў, ці развалаў.

Пад корнеклубнеплоды трэба араць з восені і на поўную глыбіню пахатнага слою. Перадпасеўную апрацоўку глебы пад яравыя пасевы пачынай як толькі магчыма выехаць у поле з трактарам, ці коньмі, пасьля сынегу. Прадпасяўная апрацоўка глебы лічыцца добрай, калі глеба становіцца дробна-камкаватай, расплыву павярхоўнага пласту не павінна быць.

6) Выпасная ўтрыманьне сьвіней умацоўвае здароўе жывёлы, забясьпечвае найбольшую іх прадукцыйнасьць. На пашы сьвіньні маюць неабходныя ўмовы для разьвіцьця мускулатуры, касьцяка і г. д. Паша забясьпечвае сьвіней дастатковай колькасьцю вітамінаў у кармох. Пры адсутнасьці, альбо недастатковасьці вітамінаў, жывёла недаразьвіваецца і адсюль недаатрымоўваецца выхад таварнай прадукцыі. Абавязкова арганізавуць у кожнай гаспадарцы пашу для сьвіней. Для таго каб поўнасьцю забясьпечыць пасьбішчным кормам сьвіней на працягу веснавога і летняга пэрыяду, арганізуй зялёны пасьбішчны канвэер. Забясьпеч сьвіней бульбай і караньплодамі (кармавыя буракі, морква і інш.). Памятай, што караньплоды даюць вялікі ўраджай і зьяўляюцца вельмі каштоўнымі сакавітымі харчамі для сьвіней;

7) Памятай, што лепшымі бялковымі кармамі для сьвіней зьяўляюцца — канюшына, люцэрна, віка, і інш. Забясьпеч поўнае выкананьне пляну сяўбы гэтых культур. Для найбольш поўнага забесьпячэньня сакавітымі кармамі, якія багаты вітамінамі, засявай сілосныя культуры: кукурузу, гарох, сланэчнік і інш.

8) Бяз правільнай арганізацыі працы ў сацыялістычных гаспадарках немагчыма выканаць прамфінплян. Арганізуй сталыя брыгады, выходзячы з вытворчага прынцыпу, падбяры найбольш здольных працаўнікоў для выкананьня працы, якая ўскладаецца на брыгаду, ні ў якім разе не дапускаючы арганізацыі брыгад па тэрытарыяльных азнаках. Ацэньвай працу брыгады і кожнага сябра брыгады паасобку па колькасным і якасным паказчыкам выкананьня працы.

**НДІ Сьвінагадоўлі.**

**Малюнак на вокладцы: т. Чыжэўскі—лепшы ўдарнік брыгады шорнікаў (калгас „На варце“, Крычаўскага раёну).**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

7 КРАСАВІК 1932

АРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ



# Кожны калгасьнік павінен мець сваю карову, дробную жывёлу, птушку

## Аб прымусовым аграмаджаньні жывёлы

*(Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка 1932 году)*

У радзе раёнаў наглядаецца практыка аграмаджаньня кароў і дробнай жывёлы ў асобных калгасьнікаў фактычна прымусовым спосабам, што самым грубным чынам парушае неаднаразавыя ўказаньні Цэнтральнага Камітэту партыі і статут сельскагаспадарчай арцелі.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што толькі ворагі калгасаў могуць дапускаць прымусовае аграмаджаньне кароў і дробнай жывёлы ў асобных калгасьнікаў.

Цэнтральны Камітэт растлумачвае, што практыка прымусовага забіраньня ў калгасьнікаў кароў і дробнай жывёлы ня мае нічога агульнага з палітыкай партыі. Задача партыі састаіць у тым, каб у кожнага калгасьніка былі свая карова, дробная жывёла, птушка. Далейшае пашырэньне і разьвіцьцё калгасных фэрм павінна ісьці толькі шляхам вырасьліваньня фэрмамі маладняка ці пакупкі імі жывёлы.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) прапануе ўсім партыйным, савецкім і калгасным арганізацыям:

1. Спыніць усякія спробы прымусовага аграмаджаньня кароў і дробнай жывёлы ў калгасьнікаў, а віноўных у парушэньні дырэктывы ЦК выключаць з партыі.
2. Арганізаваць дапамогу і садзейнічаньне калгасьнікам, ня маючым каровы ці дробнай жывёлы, у пакупцы і вырасьліваньні маладняка для асабістых патрэб.

**ЦК УсеКП(б).**

---

## Пастанову ЦК ад 26 сакавіка—у калгасныя масы

*(З перадавой „Праўды" ад 28-III—32 г.)*

Цэнтральны камітэт ня раз папярэджваў партыйныя арганізацыі наконт абсалютнай недапушчальнасьці парушэньняў у калгасным будаўніцтве, у прыватнасьці, наконт недапушчальных парушэньняў статуту сельскагаспадарчай арцелі. І ўсё-ж знайшліся некаторыя арганізацыі і некаторыя работнікі, якія прайшлі міма гэтага папярэджаньня і падыйшлі да задачы калгаснага будаўніцтва ня так, як будаўнікі, а як адміністратары.

Партыя, вырашыўшы ў асноўным збожжавую праблему, паставіла разьвіцьцё жывёлагадоўлі, як цэнтральную на даным этапе задачу. І вось знайшліся людзі, якія парашылі, што з гэтай справай можна справіцца проста, „раз-у-раз": варта, моў, толькі поўнасьцю аграмадзіць кароў і дробную жывёлу, якая ёсьць у калгасьнікаў. Пры гэтым асаблівай увагі заслугоўвае той факт, што калі супроць гэтых спроб у тых раёнах, дзе яны ўжываліся і высоўваліся пярэчаньні, то звычайна гэтыя пярэчаньні зводзіліся да ўказаньня на непадрыхтаванасьць матар'яльна-тэхнічнай базы

для неадкладнага аграмаджаньня жывёлы і толькі. Няма, моў, скотных двароў, няма кармоў, а таму давайце пакуль з аграмаджаньнем пачакаем. Меркаваньне гэта важнае і само па сабе правільнае. Але яно мае адзін істотнейшы недахоп. Дапусьцім, што даная арцель мае і памяшканьні для жывёлы і неабходную колькасьць кармоў. Ці вынікае адсюль, што можна прымусова аграмадзіць жывёлу паасобных калгасьнікаў. Ці не зразумела, што людзі, якія думаюць вырашыць жывёлагадоўчую праблему шляхам прымусовага аграмаджаньня жывёлы, якая ёсьць у калгасьнікаў, прытрымліваюцца тэй „палітыкі“, якую тав. Сталін у свой час назваў „палітыкай“ унцера Прышыбеева. Паміма таго, што за спробамі пераскочыць праз арцель да камуны хаваецца апартуністычнае жаданьне адчапіцца ад цяжкай задачы сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў, абыйсьці яе і адміністрацыйным шляхам вырашыць тыя задачы сацыялістычнай перабудовы вёскі,—гэта справа мае яшчэ і другі бок,—бак эканамічны.

Што азначала-б ліквідацыя індывідуальнай часткі гаспадаркі калгасьніка сёньня? Над гэтым, відаць, не задумваюцца „заўзятыя“ адміністратары. Тут гэта значыла-б, што калгасы сёньня павінны былі-б замест арганізацыі вытворчасьці вырашаць задачу цэнтралізаванага снабжэньня калгасьнікаў, вырашаць задачу здавальненьня патрэб калгасьнікаў. Прышлося-б перавесьці калгасьнікаў на грашовую заработную плату, для чаго патрэбна было-б адарваць мільярды рублёў зваротных сродкаў з іншых галінах народнай гаспадаркі, бо калгасы не накапілі яшчэ выстарчальных уласных грашовых сродкаў, выстарчальных натуральных запасаў. Зрыў усяго народна-гаспадарчага пляну—вось што было-б вынікам такой „палітыкі“. ЦК ня раз і ў сваёй пастанове ад 4 лютага г. г. асабліва папярэджваў супроць спроб перавесьці аплату працы калгасьнікаў на грашовую зарплату. Але якая справа да гэтых перасьцярог „левакам“, якім „усё ні па чым“. Ім і не ўздагад, што ў парыве адміністрацыйнага захапленьня яны скачуць пад дудку клясавага ворага, што яны ў радзе выпадкаў становяцца ахвярай адкрытай кулацкая правакацыі.

Задача партыі заключаецца ў далейшым разгортваньні і ўмацаваньні арцельнай формы сельскай гаспадаркі, яна, у прыватнасьці, заключаецца ў тым, „каб у кожнага калгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка“, каб „арганізаваць дапамогу і садзейнасьць калгасьнікам, якія ня маюць каровы, або дробнай жывёлы, у куплі і гадоўлі маладняка для асабістых патрэб“. Нарэшце, калі ўзяць практыку прымусовага аграмаджаньня жывёлы калгасьнікаў з пункту гледжаньня задач жывёлагадоўлі, дык з гэтага пункту гледжаньня апартуністычная блізарукасьць арганізацый, якія дапускаюць гэту практыку, стане відавочнай.

Партыя дасягнула значных посьпехаў у будаўніцтве калгасных таварных фэрм. Канцэнтрацыя стада на фэрмах дае вялізарны эфэкт у сэнсе выхаду таварнай прадукцыі. Аднак, задача пашырэньня стада прадукцыйнай жывёлы шляхам гадаваньня ўласнага прыплоду калгаснымі фэрмамі зусім яшчэ ня вырашана. Больш таго, тэхнічна і гаспадарча яны яшчэ настолькі слабыя, што ўскласьці толькі на іх гэту задачу было-б памылкова.

Задачу пашырэньня стада і гадоўлі маладняка ў калгасах сёньня нельга вырашыць без актыўнага ўдзелу ў гэтай справе кожнага калгасьніка. Калгасная фэрма або інкубатарная станцыя, прадаючы калгасьнікам частку прыплоду (цялят, парасят, куранят), дапамагаючы ім абзавесьціся сваёй уласнай жывёлай, забясьпечвае гэтым самым вялізарны размах у справе гадаваньня маладняка. Але вось ёсьць, аказваецца, такія „тэарэтыкі“, якія сьцьвярджаюць, што гэта можа прынесьці „вялізарную шкоду аграмаджваньню жывёлы распальваньнем дробнаўласьніцкіх настрояў калгасьнікаў, стварэньнем ілюзій, што пры калгасе кожны бядняк і серадняк будзе карыстацца асобнай кароўкай“ (Сярэдняволскі журнал „Аграрнік марксыст“ № 1). Паводле гэтай „тэорыі“ выходзіць, што з дробнаўласьніцкімі настроямі калгасьнікаў лёгка пакончыць, аграмадзіўшы жывёлу і ніякай такой спэцыяльнай работы па сацыялістычным перавыхаваньні калгасьнікаў ня будзе патрэбна. Гэта „лявацкая“ тэорыя лішні раз сьведчыць аб тым, што ня ўсе яшчэ да канца зразумелі сэнс пастановы ЦК аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў у іх арцельнай стадыі разьвіцьця і, у прыватнасьці, не зрабілі тых неабходных вывадаў з указаньняў ЦК аб тым, што арцельная форма калгасаў яшчэ даволі не разгорнута і не замацавана.

Задачай усіх партыйных арганізацый зараз зьяўляецца, па-першае, шырокая папулярызацыя пастановы ЦК ад 26 сакавіка сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў, і па-другое, настойлівае правядзеньне яе ў жыцьцё. У прыватнасьці, улічваючы пачатак пасеўнай кампаніі, партарганізацыі абавязаны дабіцца, каб кожны калгас прадугледзіў такі пасеў кармовых культур, які-б забясьпечваў кармамі ня толькі жывёлу калгасных фэрм, але і жывёлу, якая знаходзіцца ва ўласнасьці калгасьнікаў.

Неабходна **„спыніць усякія спробы прымусовага аграмаджаньня кароў і дробнай жывёлы ў калгасьнікаў, а вінаватых у парушэньні дырэктывы ЦК выключаць з партыі“**. Трэба рашуча пакончыць з „лявацкімі“ тэорыямі і „лявацкай“ практыкай пераскакваньня праз арцельную форму калгасаў.

Пастанова ЦК адыграе вялізарную ролю ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Яна паслужыць новым стымулам уздыму вытворчай актыўнасьці калгасных мас, паскорыць тэмпы вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, яна нанясе зьнішчальны ўдар клясаваму ворагу.



Ударная брыгада па догляду за сьвіньнямі загатаўляе дровы для кухні сьвінарніка (калгас „На варце“, Крычаўскага р.).

# КАЛГАСНУЮ БРЫГАДУ—У ЦЭНТР УВАГІ

## Праз некалькі дзён пачнецца сяўба. Кожны калгас павінен выступіць у поле правільна, арганізаванымі вытворчымі брыгадамі

## БРЫГАДА АДКАЗВАЕ ЗА ПОСЬПЕХ СЯЎБЫ, ЗА ЎРАДЖАЙ

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, які адбыўся 26—28 сакавіка, адзначыў, што падрыхтоўка да веснавой сяўбы праходзіць зусім нездавальняюча. „Партыйныя, савецкія і зямельна-калгасныя арганізацыі ў большасьці раёнаў БССР не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў, не ўзяліся па-сапраўднаму за выкананьне гэтых пастаноў, не перанесьлі цэнтр цяжару падрыхтоўкі да пасеўнай кампаніі на арганізацыю брыгад—асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці, не мабілізавалі мас рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў і не забясьпечылі стварэньня брыгад па вытворчым прынцыпе, а ў некаторых раёнах (у прыватнасьці ў Смалявіцкім і Талочынскім) фармальна падыйшлі да арганізацыі калгасных брыгад, ня вызначыўшы за брыгадамі пастаяннага складу калгасьнікаў, не замацаваўшы пастаяннага зямельнага вучастку, інвэнтару, рабочай жывёлы, насеньня і фуражу“ (з пастановы пленуму).

Калгасная брыгада—важнейшае зьвяно ў падняцьці калгаснай вытворчасьці, у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Брыгада, на замацаваным за ёй вытворчым вучастку, павінны пачынаць і заканчваць усе працэсы сельскагаспадарчых работ (падрыхтоўка глебы, сяўба, догляд за пасевамі, уборка, малацьба). Брыгада нясе поўную адказнасьць за выкананьне вытворчага заданьня калгасу, за выхад прадукцыі. **„Ацэнка працадня калгасьнікаў павінна павышацца альбо паніжацца ў залежнасьці ад пасьпяховасьці работы брыгады“** (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2-II—32 г.). Такім чынам брыгады павінны адыграць выключную ролю ў пасьпяховым правядзеньні веснавой сяўбы, у барацьбе за высокі ўраджай калгасных палёў.

Сталая вытворчая брыгада павінна стаць магутным рычагом стварэньня новай вытворчай дысцыпліны, арудзьдзем перавыхаваньня калгасьніка—учарашняга аднаасобніка ў сацыялістычнага працаўніка. Вялізарнейшую ролю ў падняцьці калгаснай вытворчасьці павінен адыграць калгасны актыў. Цэнтральны камітэт КП(б)Б у сваёй пастанове ад 26 лютага гэтага году падкрэсьліў, што **„стварэньне калгаснага актыву шляхам выяўленьня з ліку ўдарнікаў—удзельнікаў сацспаборніцтва. брыгадзіраў і г. д. і выхаваньне яго—зьяўляецца важнейшай палітычнай задачай партыйных арганізацый. Толькі апіраючыся на калгасны актыў, з найбольшым посьпехам будуць вырашаны задачы барацьбы за ўраджай, за выкананьне пляну загатовак, за разьвіцьцё жывёлагадоўлі, сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас і г. д.“**.

Тэй-жа пастановай ад 26 лютага ЦК КП(б)Б абавязаў „партыйныя і калгасныя органы **правесьці арганізацыю брыгад на вытворчым прынцыпе да 1 красавіка“**. Аднак, ня гледзячы на гэтае ўказаньне ЦК, у цэлым радзе калгасаў да гэтага часу яшчэ не арганізаваны брыгады. Напрыклад у Рагачэўскім раёне, з 131 калгасаў—на 25 сакавіка былі арганізаваны сталыя брыгады толькі ў 62 калгасах. Таксама марудна праходзіць арганізацыя брыгад па Полацкаму, Чэрвеньскаму, Аршанскаму, Чавускаму і іншых раёнах.

ЦК КП(б)Б асудзіў „наяўную ў радзе месц практыку арганізацыі брыгад па тэрытарыяльным прынцыпе (так званых брыгад-пяцідворак) і брыгад з непастаянным складам“ і прапанаваў „ліквідаваць такія брыгады і на аснове гадавога вытворчага пляну калгасаў і ўліку патрэбнасьці ў рабочай сіле **арганізаваць ва ўсіх калгасах брыгады выключна па вытворчым прынцыпе з пастаянным складам людзей з тым, каб, як правіла, такія брыгады выконвалі ўсе асноўныя сельскагаспадарчыя работы на працягу ўсяго году на пэўных вучастках“**. Аднак ёсьць рад выпадкаў няправільнага, мэханічнага падыходу да арганізацыі калгасных брыгад, аб тым адзначыў аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Шмат у якіх калгасах склад брыгад вызначаецца зусім нявытворчымі задачамі данай брыгады. Брыгада ў такіх выпадках уключае ў сябе ўсё калгаснае насельніцтва пэўнай часткі вёскі, альбо ўсёй вёскі. Такім чынам такія брыгады зьяўляюцца ня столькі вытворчым зьвяном калгасу, колькі адміністрацыйнай адзінкай вёскі.

Трэба зараз-жа выправіць дапушчаныя памылкі ў арганізацыі калгасных брыгад. Памер брыгады павінен залежаць выключна ад вытворчага заданьня. Нельга складаць брыгады мэханічна. Неабходна пэрсанальна падыходзіць да кожнага калгасу.

У кожнай брыгадзе павінна быць створана моцнае ядро з вопытных працаўнікоў, з ударнікаў, з калгаснага актыву. Партыйныя арганізацыі павінны стварыць у кожнай брыгадзе моцны актыў, партгрупу альбо вылучыць партпрымацаванага. Толькі пры гэтых умовах брыгада стане моцнай вытворчай адзінкай калгасу—важнейшым зьвяном у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў.

**Брыгадзір—старэйшы майстра калгаснай вытворчасьці**. Ад правільнай расстаноўкі рабочай сілы ўнутры брыгады і кіраўніцтва ёю будзе залежыць посьпех усёй брыгады. Таму, падбор брыгадзіраў павінен заняць адно з важнейшых месц у пабудове брыгады. **„Падбор брыгадзіраў, зьнішчэньне цякучасьці іх складу і сапраўдная дапамога брыгадзірам у справе павышэньня іх гаспадарчай і палітычнай кваліфікацыі—павінны стаць важнейшай задачай партыйных арганізацый“** (з пастановы ЦК УсеКП(б)).

Да пачатку сяўбы засталося ўсяго некалькі дзён. Партыйныя і камсамольскія арганізацыі павінны мабілізаваць усю сваю ўвагу на падрыхтоўку калгасаў да выхаду ў поле. Генэральная праверка падрыхтаванасьці ад сяўбы, якая абвешчана газэтай „Зьвязда“ сумесна з ЦКК КП(б)Б і Наркамземам БССР—павінна быць выкарыстана для неадкладнай ліквідацыі маючыхся недахопаў у арганізацыі брыгад, для арганізацыі брыгад у тых калгасах, у якіх яны не арганізаваны яшчэ.

15 дзён генэральнай праверкі (з 1 па 15 красавіка) павінны быць ператвораны ў 15 дзён баявога штурму па завяршэньні падрыхтоўкі да сяўбы.

Рашуча змагацца з кулаком і яго агентамі—апартуністамі, якія імкнуцца сарваць нашы пляны веснавой пасеўнай кампаніі і гэтым самым пашкодзіць арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў.

**Выступіць у поле правільна арганізаванымі вытворчымі брыгадамі—баявая задача кожнага калгасу.**

# Вытворчая брыгада—змагар за таварнасьць калгаснай гаспадаркі

**„Трэба арганізаваць працу на прадпрыемствах такім чынам, каб вытворчасьць уздымалася з месяца ў месяц, з кварталу ў квартал“ (СТАЛІН).**

Брыгадная сыстэма арганізацыі працы ў калгасах на вопыце 1931 году апраўдала сябе, як найлепшы мэтад павышэньня вытворчасьці працы і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгаснай вытворчасьці.

Уздым вытворчасьці калектыўнай працы пры брыгаднай сыстэме арганізацыі работ атрымоўваецца ў выніку таго, што яна:

1. Дае магчымасьць шырокаму і плянаваму падзелу працы, спэцыялізацыі, тым самым падвышае інтэнсыўнасьць у рабоце, дае магчымасьць для найбольш поўнага і рацыянальна-плянавага скарыстаньня працоўных рэсурсаў гаспадаркі.

2. Дае магчымасьць правядзеньню канкрэтнага плянавага кіраўніцтва (кіраўніцтва на справе, а не на словах), якое ажыцьцяўляецца праз пляны—нарады, вытворчыя заданьні брыгадзе, шляхам непасрэднага штодзеннага кантролю за ходам іх выкананьня і рапартоў брыгадзіраў.

3. Вытворчыя брыгады зьяўляюцца адным з лепшых мэтадаў сацыялістычнага перавыхаваньня калгасьнікаў. Лепшай умовай барацьбы з дробна-ўласьніцкімі тэндэнцыямі сярод калгасьнікаў, яшчэ ўчарашніх аднаасобнікаў, за сапраўдны калектывізм.

4. Сталая вытворчая брыгада стварае найлепшыя ўмовы шырокага разгортваньня сацыялістычных мэтадаў працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Але ўсе пералічаныя факты атрымоўваюць належны вынік толькі пры тэй умове, калі брыгада зьяўляецца вытворчай адзінкай калгасу з сталым складам у ёй калгасьнікаў, калі склад і характар брыгады вызначаецца вытворчым заданьнем, характарам самой вытворчасьці.

Задача калгасаў у 1932 годзе, улічваючы вопыт мінулых гадоў, заключаецца ў тым, каб у аснову ўсёй работы ўсяго вытворчага працэсу была пакладзена вытворчая брыгада з сталым складам калгасьнікаў.

Асноўным у арганізацыі вытворчай брыгады павінна быць: а) плян заданьня, б) сродкі вытворчасьці, в) характар і аб'ём работы.

У радзе калгасаў гэты мэтад скажаецца, бярэцца як выходны пункт—людзі і іх месца жыцьця. Так, у калгасе „Камінтэрн“ усё налічча мужчын, было падзелена на некалькі груп, што, па іх думцы, складаюць брыгады. Падобны падыход да арганізацыі брыгад зьяўляецца мэханічны, не адпавядаючым запатрабаваньням калгаснай вытворчасьці, а таму шкодны.

Як прыклад, у арганізацыі брыгад для другіх калгасаў можа служыць апорны пункт Інстытуту сац. рэканструкцыі сельскай гаспадаркі—калгас „Случ № 2“ Слуцкага раёну. Гэты калгас мае плянавае заданьне на 1932 г. засеяць 313,5 *га* яравога кліну. Уся зямельная плошча гэтага калгасу знаходзіцца ў адным масыве. У калгасе маецца 82 кані, да якіх прымацован адпаведны інвэнтар і збруя.

З маючай працоўнай сілы, якая склададае 204 асобы, з іх 97 жанчын, калгасам накіравана ў сталы адыход 11 мужчын, у Чырвонай арміі 6 асоб і няма ючых магчымасьці прымаць удзел у працы—16 мужчын і 19 жанчын. Такім чынам застаецца мужчын, якія будуць прымаць удзел у працы—74 асобы і 78 жанчын. Падлеткаў, якія могуць прымаць удзел у калгаснай вытворчасьці—4 асобы. Усю працу калгас праводзіць сваімі сродкамі вытворчасьці.

Для вытварэньня ўсіх работ у веснавую пасеўную кампанію калгасу патрэбна затраціць наступную колькасьць рабочых і цягавых дзён:

**По збожжавым культурам.** Для пасеву 80 *га* аўса патрэбна (ворыва, баранаваньне, сяўба, адвозка насеньня, пасеў угнаеньня, дастаўка насеньня і ўгнаеньня)—240 рабочых дзён.

Для пасеву 20 *га* ячменю патрэбна (ворыва, скароджаньне, спружыноўка, вывазка і разьбіўка гною, ворыва, пасеў, баранаваньне і падвозка насеньня)—158 рабочых дзён.

Для пасеву 10 *га* гароху патрэбна (ворыва, пасеў, баранаваньне, падвозка насеньня)—25,5 рабочых дзён.

Для пасеву 7 *га* грэчкі патрэбна (ворыва, баранаваньне I, ворыва II, пасеў, баранаваньне II,—32 рабочых дні.

Для пасеву 10 *га* вікі патрэбна (ворыва, дастаўка і пасеў угнаеньня, пасеў, баранаваньне, падвозка насеньня)—31,5 рабочых дзён.

Для пасеву 16 *га* лубіну патрэбна (ворыва, пасеў, баранаваньне, дастаўка насеньня)—42,5 рабочых дзён.

Усяго па зернавых культурах патрабуецца затраціць 530 рабочых дзён.

**Па тэхнічным культурам і бульбе.** Для пасеву 110 *га* бульбы патрэбна (скароджаньне, вывазка і разьбіўка гною, ворыва, пасеў, падвозка бульбы, перабіраньне бульбы)—1 437 рабочых дзён.

Для пасеву 20 *га* ільну патрэбна (скароджаньне, ворыва, пасеў, баранаваньне, дастаўка насеньня)—59 рабочых дзён.

Для пасеву 1 *га* канаплі патрэбна (скароджаньне, ворыва, пасеў, баранаваньне)—3 рабочых дні.

Усяго па тэхнічных культурах і бульбе патрабуецца 1.500 рабочых дзён.

**Па гародніцтву.** Для пасеву 10 *га* раньняй бульбы патрэбна 133 рабочыя дні.

Для пасеву 10 *га* караньплодаў патрэбна 84 рабочыя дні і для пасеву 11 *га* раньняй гародніны, 6 *га* капусты, 1 *га* морквы—патрабуецца 60 рабочых дзён. А ўсяго на вучастку гародніны трэба затраціць 272 рабочых дзён.

Выходзячы з гэтых разьлікаў, калгас арганізаваў 3 сталыя вытворчыя брыгады, з якіх: 1-я брыгада замацавана за вучасткам збожжавых культур у складзе 14 мужчын і 8 жанчын. Да гэтай брыгады прымацаваны 24 кані з інвэнтаром і збруя; II брыгада — замацавана за вучасткам па бульбе і тэхкультурах (для апошніх вылучаецца ўнутры брыгады асобная група) у складзе 22 мужчын, 38 жанчын і 40 коняй з інвэнтаром і збруяй; III-я брыгада—замацавана за вучасткам па гародніцтву, раньняй бульбе і караньплодаў у складзе 7 мужчын, 8 жанчын і 12 коняй з патрэбнымі сродкамі вытворчасьці.

Пасьля такога разьмеркаваньня ў калгасе застаецца 6 рэзэрвных коняй, якія будуць скарыстоўвацца для гаспадарча-адміністрацыйных выездаў і замены на выпадак хваробы коняй у брыгадах.

Да 1-й і 3-я брыгад, для абслугоўваньня коняй ноччу, прымацаваны 2 канюхі, на якіх ляжыць абавязак таксама догляду 6-ці рэзэрвных коняй. Таксама два канюхі прымацоўваюцца да другой брыгады, 1 конюх даглядае маладняк і загадвае збруяй 6-ці рэзэрвных коняй.

У сталых галінах вытворчасьці калгасу ўжо зараз маюцца сталыя брыгады. Так, на сьвінагадоўчай фэрме, у якой налічваецца 276 штук пагалоўя, працуе брыгада № 4 у складзе 10 жанчын і 14 мужчын. Прычым, да арганізацыі гэтае брыгады, у сувязі з тым, што калгас мае сьвінагадоўчы напрамак, праўленьне падышло найбольш сумленна да падбору ў яе калгасьнікаў. У гэтую брыгаду вылучаны лепшыя работнікі калгасу, маючыя адпаведны вопыт і навык у рабоце на сьвінагадоўчай фэрме.

5-я брыгада працуе па догляду за буйнай рагатай жывёлай і маладняком. Склад брыгады наступны: 4 даяркі—жанчыны, 1 мужчына па падрыхтоўцы корму і агульнаму абслугоўваньню, 2 мужчыны даглядаюць падцёлкаў, 1 мужчына і 1 жанчына даглядаюць цялят. На летні пэрыяд да гэтай брыгады будуць прымацаваны яшчэ 1 мужчына і 1 падлетак для пасьбы цялят.

6-я брыгада па будаўніцтву, у складзе 12 мужчын і 7-я гаспадарча-рамонтная—6 асоб.

Астатнія 3 мужчыны складаюць: старшыня калгасу, рахункавод і 1 па саду і пчалярству. Астатнія асобы будуць скарыстоўвацца на сэзонным і часовым адыходніцтве.

Другім, ня менш важным пытаньнем у арганізацыі вытворчых брыгад зьяўляецца пытаньне зьнішчаньня цякучасьці іх складу. Вопыт мінулага году з усёй яскравасьцю паказаў, што нясталыя брыгады, нясталы склад, іх нясе за сабой: 1) абязьлічку, безадказнасьць за даручаную працу і яе вынікі, безадказнасьць за інвэнтар і калгасную маемасьць; 2) ураўнілаўку, няўлік кожнай канкрэтнай работы, кожнага калгасьніка, а патрэбна, каб працадні залічваліся па рабоце і яе выніках з тым, каб сапраўды ажыцьцяўляць лёзунг: „хто больш і лепш працуе, той больш атрымоўвае"; 3) усё гэта ў значнай ступені зьніжае вытворчасьць працы, зьніжае яе якасьць і выкананьне ўсіх паказчыкаў норм выпрацоўкі; 4) урэшце, нясталыя брыгады, брыгады з цякучым складам калгасьнікаў зьяўляюцца тормазам у разьвіцьці сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Вось паказчыкі ўсёй адмоўнасьці і шкоднасьці існаваньня нясталых брыгад.

Напрыклад, у калгасе „Новае жыцьцё", Койданаўскага раёну, у вядучай галіне гаспадаркі сьвінагадоўчай фэрме за 13 дзён зьмянілася 15 асоб. У выніку пануе поўная абязьлічка, сьвіньні плаваюць у гразі, корм абліваецца халоднай вадой. У калгасе „Камбайн" засталіся на полі буракі, аб чым ня ведала ні праўленьне, ні палявод, ні другія сябры калгасу.

Калгасы павінны аб'явіць бязьлітасную барацьбу цякучасьці ў складзе брыгад. Як правіла, брыгады павінны быць сталымі. Аднак гэта зусім ня значыць, што брыгада павінна ставіцца ў рамкі, з якіх яна ніколі ня выходзіць. Наадварот, сталым павінна быць аснова брыгады—ядро, якое круглы год скарыстоўваецца на рабоце прымацаванага вучастку, астатнія-ж асобы папаўняюць брыгаду ў залежнасьці ад напружанасьці і тэрміновасьці працы. Брыгада павінна быць гібкай вытворчай адзінкай калгасу.

Зараз-жа трэба ўстанавіць увесь пералік работ кожнай брыгадзе. Калгас „Случ № 2" гэтую задачу вырашыў наступным чынам: першая брыгада па збожжавых культурах з сканчэньнем веснавой сяўбы пераключаецца на сена—уборку, пасьля чаго зноў працягвае работу на сваім вучастку па ўборцы, а потым малацьбе. Другая брыгада па бульбе і тэхкультурах пасьля веснавой сяўбы і міжрадковай апрацоўкі—пераключаецца на уборку жыта і зяблевае ворыва. 3-я брыгада да пачатку ўборкі гародніны пераключаецца на сяўбу азімых. Пры чым, пераключэньне вытвараецца не мэханічна, а ў залежнасьці ад працы на вучастках. Брыгада можа пераключыцца на працу ў другім вучастку не цалкам, а ў залежнасьці ад работы на асноўным ву-

**„Стварэньне насенных і страхавых фондаў зьяўляецца асноўнай задачай падрыхтоўкі да сяўбы, ад пасьпяховага выкананьня якіх будзе залежаць выкананьне плянаў сяўбы".**

*(З пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).*

**Кожная брыгада павінна рашуча змагацца за хутчэйшую засыпку насенных і страхавых фондаў.**

частку, і на вучастку, на якіх яна па пляну павінна працаваць з пераключэньнем. Паміж брыгадамі існуе поўная ўзаемадапамога. Брыгады шырока скарыстоўваюць мэтад буксіру і падцягваньня адстаючых.

Сталая вытворчая брыгада нясе поўную адказнасьць за даручаную ёй работу, за правядзеньне агратэхнічных мерапрыемстваў на прымацаваным да яе вучастку, за інвэнтар, цягавую сілу, пасеўныя матар'ялы, збор і здачу дзяржаве выпрацаванай прадукцыі. Адпаведна з гэтым павінна вытварацца налічэньне працадзён брыгадзе і кожнаму калгасьніку. „Ацэнка працадня калгасьнікаў павінна павышацца ці паніжацца ў залежнасьці ад пасьпяховасьці работы брыгады" (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4-га лютага 1932 году). Калі плян заданьня брыгада выканала, яна атрымоўвае ўстаноўленую ў пляне па нормах выпрацоўкі праўленьня колькасьць працадзён. Калі-ж паказчыкі пляну ня выкананы—робіцца адпаведнае зьмяншэньне працадзён, калі плян перавыканан—наадварот, робіцца адпаведная надбаўка.

Толькі вытворчыя брыгады з сталым іх складам сапраўды зьнішчаць у калгасе ўраўнілаўку, канчаткова ліквідуюць абязьлічку, тым самым уздымуць вытворчасьць працы і таварнасьць калгаснай гаспадаркі на яшчэ больш высокую ступень.

**Ф. Дзьмітрыеў.**

# Як калгас „1-га мая" склаў вытворчыя брыгады

*(Койданаўскі раён)*

Абгаварыўшы пастанову ЦК КП(б)Б аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў і пастанову НКЗБ і Калгасцэнтру БССР аб арганізацыі працы ў калгасах, калгас імя „1-га мая", прыступіў да работы па правядзеньні гэтых пастаноў у жыцьцё. Праўленьне калгасу, сумесна з брыгадай Калгасцэнтру БССР, дэталёва распрацавала падрабязны плян арганізацыі брыгад, расстаноўкі рабочай сілы і сродкаў вытворчасьці для своечасовага і поўнага выкананьня гадавога пляну, у якім адбіты вытворчыя заданьні калгасу.

## Вытворчае заданьне калгасу на 1932 г.

На 1932 год калгас імя „1-га мая" прыняў наступныя вытворчыя заданьні: **па жывёлагадоўлі** давесьці пагалоўе жывёлы на МТФ да 100 кароў, 20 нецеляй, 30 шт. маладняку, 65 цялят. Здаць малака 90 тон, засіласаваць 280 тон сілосу; **па паляводзтву**—засеяць—135 *га* бульбы, 13 *га* караняплодаў, 200 *га* аўса, 50 *га* ячменю, 5 *га* гароху, 1 *га* фасолі і бабоў, 30 *га* лёну, 2 *га* канапель, 37 *га* вікі, 38 *га* сэрадэлі, 62 *га* лубіну, 2 *га* прамысловага гароду, 2 *га* сілосных культур, 80 *га* падсеўнай канюшыны, 200 *га* жыта, 30 *га* азімай пшаніцы і 2 *га* высадак. Убраць у гэтым годзе 251,5 *га* азімага пасеву 1931 г., 74 *га* ўкоснай канюшыны і 205 *га* сенажаці. Распрацаваць асушанага балота 10 *га*, правесьці мэліарацыйную асушку балота на 30 *га*, прачысьціць магістральныя каналы на асушаным балоце 10 клм., затарфаваць 20 *га* пахаці, завапнаваць 10 *га* і нарыхтаваць 70 тон торфу для падсьцілкі.

## Арганізацыя брыгад

Уся рабочая сіла, якая ёсьць у калгасе імя „1-га мая", арганізавана ў брыгады па вытворчаму прынцыпу. Пры вызначэньні колькасьці сталых брыгад для абслугоўваньня жывёлагадоўлі, будаўніцтва, прадпрыемства і гаспадарчых работ, выходзячы з гадавога вытворчага заданьня і аб'ёму работ, праўленьне калгасу ўстанавіла па МТФ—1 брыгаду, па будаўніцтву—1 брыгаду, па прампрадпрыемству—1 брыгаду і па гаспадарчаму абслугоўваньню—1 брыгаду.

Пры размеркаваньні рабочай сілы па брыгадах калгас імя „1-га мая", выходзячы з разьлікаў патрэбнасьці рабочае сілы ў гаспадарцы, згодна вытворчага пляну, вызначыў дадаткова на адыходніцтва па дагавору 20 чал. на 6 месяцаў.

У брыгаду, якая замацоўваецца для абслугоўваньня МТФ на цэлы год, з разьліку ўстаноўленых норм выпрацоўкі, вылучана 14 калгасьнікаў. Брыгада па МТФ складаецца з 1-го загадчыка МТФ, ён-жа брыгадзір, 4-х даярак, 2-х падвозчыкаў корму і вады, 1-й па догляду цялят, 3-х па дагляду маладняку, 1-го вэтфэльдшара, 1-го вартаўніка і 1 возчыка малака.

Унутры брыгады за кожнай даяркай замацоўваецца група з 18-ці кароў для догляду і даеньня на цэлы год. У абавязкі даяркі ўваходзіць кармленьне, паеньне, чыстка, даеньне кароў, злучка, прысутнічаньне пры ацёле і мыцьцё малочнай пасуды. Брыгадзе па МТФ—вызначана вытворчае заданьне на 1932 год па маючаму пагалоўю жывёлы надаіць з кожнай каровы 1000 літраў малака ў год, выгадаваць 65 цялят і давесьці прырост цялят да году па 15 *кгр.* у месяц кожнага цяля.

Налічэньне працадзён паасобным калгасьнікам унутры брыгады будзе праводзіцца выключна па колькасьці надоенага малака і па прыросту цялят. Выходзячы з норм выпрацоўкі і ўстаноўленых зьдзельных расцэнак, брыгадзе па МТФ устаноўлена за выкананьне ўсяго вытворчага заданьня 6210 працадзён. За перавыкананьне заданьня па выхаду прадукцыі, брыгадзе будзе дадаткова налічана за кожны атрыманы звыш вытворчага заданьня цэнтнер малака, 2 працадні, за кожнае цялё—10 працадзён. Пры невыкананьні заданьня па выхаду прадукцыі будзе рабіцца зьніжэньне ў такім-жа разьмеры за кожную адзінку недаатрыманай прадукцыі.

Для абслугоўваньня калектыўна выгадаваных 13 сьвіней і 64 авец вылучаны адзін калгасьнік і адна калгасьніца, якія прымацоўваюцца да брыгады па МТФ.

У брыгаду па будаўніцтву вылучана 8 калгасьнікаў. Брыгадзе вызначана наступнае вытворчае заданьне на 1932 год: а) пабудаваць на працягу году 1 цялятнік на 100 галоў, пабудаваць новы сьвіран і лядоўню; б) скончыць пабудову кузьні; в) разабраць і перавезьці маючую ў калгасе неабходную колькасьць старых будынкаў для пабудовы новых.

На аднаго з калгасьнікаў будаўнічай брыгады ўскладзены абавязкі брыгадзіра, які нясе адказнасьць за выкананьне заданьня, улічвае працу калгасьнікаў сваёй брыгады і налічвае працадні. Праў-

леньне калгасу распрацоўвае нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі работ па будаўніцтву ў працаднёх, па якіх будзе вызначана колькасьць працадзён брыгадзе за выкананьне намечанага будаўніцтва.

Брыгада па абслугоўваньні прамысловага прадпрыемства складаецца з 11-ці калгасьнікаў, у складзе 1 заг. прадпрыемства, ён-жа брыгадзір, 2-х машыністаў, аднаго качагара, аднаго млынара, 3-х пільшчыкаў, аднаго гантарэзчыка, аднаго вартаўніка і аднаго падвозчыка топліва.

Прыём і выдача заказаў, тэхнічны нагляд і ўлік працы па прадпрыемству ўскладзены на заг. прадпрыемства. Для ўсіх работ па прадпрыемству ў калгасе ўстаноўлены нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі ў працаднёх.

У склад гаспадарчай брыгады ўваходзяць—3 стальмахі, 2 кавалі і 2 падручных, 2 шорнікі, адзін кравец і адзін шавец. Для ўсіх гаспадарчых работ у калгасе ўстаноўлены нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі ў працаднёх. На аднаго з калгасьнікаў, які працуе ў сталярні, ускладзены абавязкі брыгадзіра, які разам з паляводам калгасу прымае ад усіх калгасьнікаў брыгады работу, улічвае працу і робіць налічэньне працадзён.

Пасьля вылучэньня гэтых брыгад і вызначэньня колькасьці калгасьнікаў у кожнай з іх, праўленьне калгасу прыступіла да арганізацыі брыгад у паляводзтве. Усяго вызначана для паляводзтва 4 сталых брыгады. Пры вызначэньні колькасьці гэтых брыгад улічвалася забясьпечанасьць калгасу складанымі машынамі, месцазнаходжаньне паселішчаў і вытворчых зямельных вучасткаў, а таксама забесьпячэньне апэрацыйнасьці ў кіраўніцтве брыгадай, як з боку брыгадзіра, так і праўленьня калгасу.

## Замацаваньне зямельных вучасткаў за паляводчымі брыгадамі

Пры выдзяленьні брыгадам зямельных вучасткаў, праўленьне калгасу імкнулася к таму, каб брыгада мела зямельны вучастак у адным масыве з вядучымі культурамі, з далучэньнем другіх культур для роўнамернай нагрузкі брыгад ва ўсе пэрыяды.

Калгас імя „1-га мая" зьяўляецца бульбяна-жывёлагадоўчым і, згодна пастановы НКЗБ і Калгасцэнтру БССР, у такім калгасе брыгады арганізуюцца на вучастках з прапашнымі і збожжавымі культурамі. Таму, за 1-й брыгадай замацован зямельны вучастак з пасевам бульбы 35 *га* і збожжавых—1,06 *га*, за 2-й брыгадай—бульбы 40 *га* і збожжавых—98 *га*; за 3-яй брыгадай—бульбы 20 *га* і збожжавых—127 *га*; за 4-й брыгадай—бульбы—40 *га* і збожжавых 170,5 *га*. Да гэтых асноўных культур, з мэтай роўнамернай нагрузкі брыгады на працягу году, дадзены іншыя культуры і плошчы сенажаці.

Зямельныя вучасткі замацаваны за 4-ма паляводчымі брыгадамі, якія будуць выконваць усе работы па засеву культур на гэтых вучастках, пачынаючы з веснавой падрыхтоўкі глебы, пасеву і канчаючы абмалотам ураджаю.

Для кожнай брыгады калгасам устаноўлена вытворчае заданьне на ўвесь год. У вытворчым заданьні кожнай паляводчай брыгады паказана колькасьць *га* плошчы па кожнай культуры на прымацаваным да яе зямельным вучастку.

Выходзячы з гэтага, у вытворчым заданьні кожнай брыгады падлічан выхад прадукцыі з кожнай культуры, якая засяецца на прымацаваным да кожнай брыгады зямельным вучастку.

Праўленьне калгасу ўстанавіла за перавыкананьне гадавога заданьня па выхаду прадукцыі дадаткова налічваць брыгадам за кожны атрыманы звыш вытворчага заданьня цэнтнэр збожжавых культур—4 працадні, за кожны цэнтнэр валакна—8 працадзён, за кожную тону бульбы і караньплодаў—10 працадзён. Пры невыкананьні заданьня па выхаду прадукцыі—рабіць зьніжэньне ў такім-жа размеры за кожную адзінку недаатрыманай прадукцыі.

## Табліца вытворчых заданьняў

Кожнай паляводчай брыгадзе ў вытворчым заданьні вызначаны пэўныя тэрміны сканчэньня работ па кожнай культуры ў адпаведнасьці з пастановамі НКЗБ ад 16-II—32 г. Акрамя гэтага ў вытворчым заданьні пералічан характар работ, плошча і ацэнка ў працаднёх выкананай работы, напрыклад, 1-й брыгадзе—за выкананьне ўсіх работ па бульбе, караньплодах, аўсу, ячменю, віцы, лёну, канюшыне падсеўнай, сэрадэлі, лубіну, высадках, канюшыне ўкоснай, сенажаці, жыту і пшаніцы пасеву 1931 г., азімых 1932 г.—усяго на плошчы 432 *га*, запісваецца 5.040 працадзён.

## Вызначэньне размеру паляводчых брыгад

Выходзячы з устаноўленых тэрмінаў выкананьня работ, калгас імя „1-га мая" арыентыровачна вызначыў наступныя каляндарныя тэрміны паасобных пэрыядаў палявых работ:

**Другі пэрыяд**—пасеў раньніх яравых і догляд за імі—да 12-V (у першы пэрыяд уваходзіць падрыхтоўка да сяўбы).

**Трэці пэрыяд**—пасеў позьніх яравых, прапашных тэхнічных і догляд за імі—ад 12-V да 25-V.



Ударнікі калгасу „Пралетарскі Пахар"—Юрчанка і Албеяў рамантуюць цялегі (Крычаўскі раён).

**Чацьверты пэрыяд**—уборка сеяных траў, сенажаці, полка, ворыва папару—ад 25-V да 10-VII.

**Пяты пэрыяд**—уборка ураджаю і траў (другі ўкос да пачатку асеньняй сяўбы)—ад 10-VII да 25-VIII.

**Шосты пэрыяд**—зяблевае ворыва, асеньняя сяўба і ўборка прапашаных—ад 25-VIII да 15-X.

**У сёмым пэрыядзе** калгас заканчвае малацьбу, у разьмеры 1/3 часткі ўсіх збожжавых і пераключае ўсю цягавую сілу на зяблевае ворыва.

На падставе прынятых у калгасе норм выпрацоўкі, падлічана агульная патрэбнасьць рабочай сілы за год і сярэдняя штодзенная патрэбнасьць людзей і коняй для выкананьня работ у паасобныя пэрыяды па культурах, якія разьмешчаны на паасобных зямельных вучастках, прымацованых да сталых брыгад.

Па зробленых падліках, у калгасе „1-га мая" найбольшая сярэдняя штодзенная патрэбнасьць людзей ў IV пэрыядзе, у час уборкі сеяных траў і сенажаці. Гэтая лічба штодзеннай патрэбнасьці людзей зьмяншаецца ў III і VI пэрыядах у часе пасеву і ўборкі бульбы і значна меншая ў II пэрыядзе—час пасеву яравых.

Для ўстанаўленьня колькасьці сталага складу калгасьнікаў у брыгадах, праўленьне калгасу не магло выходзіць з сярэдняй штодзеннай патрэбнасьці людзей для выкананьня работ у найбольш напружаным IV пэрыядзе (час уборкі сеяных траў і сенажаці). Таксама няправільным было б арыентавацца на найменшую сярэднюю штодзенную патрэбнасьць у 2-м пэрыядзе (час сяўбы яравы) таму, што гэта прывяло б да вялікай цякучасьці брыгад і ня было-б сталага складу калгасьнікаў у брыгадзе, якія павінны адказваць за выкананьне вытворчага заданьня.

Калгас „1-га мая" ўстанавіў сталы склад калгасьнікаў у паасобных брыгадах, выходзячы з сярэдняй штодзеннай патрэбнасьці, 2 рашаючых пэрыядаў—па севу і ўборкі вядучых культур у калгасе, другім пэрыядзе—пасеву бульбы і шостым пэрыядзе—уборкі бульбы.

Напрыклад, 1-ай брыгадзе для выкананьня вызначанага вытворчага заданьня патрэбна ў III пэрыядзе (пасеў бульбы і позьніх яравых)—510 людзкіх дзён, у VI пэрыядзе (уборка бульбы і коранёплодаў)—1.750 людзкіх дзён, а ўсяго на гэтыя 2 пэрыяды патрэбна 2.260 людзкіх дзён, што ў сярэднім па разьліку на 68 рабочых дзён у гэтых пэрыядах складае штодзенную патрэбнасьць у 39 чал. Атрыманая сярэдняя лічба патрэбнасьці людзей у брыгадах па 2-х рашаючых пэрыядах праўлена наяўнасьцю агульнага ліку рабочае сілы ў калгасе, асабліва жаночай рабочай сілы і ўстаноўлен сталы склад першай брыгады—41 чал., з іх мужчын—14, жанчын—24 і падлеткаў мужчынскага полу—3; другой брыгады—36 чал., з іх 14 мужчын, 20 жанчын і 2 падлеткі мужчынскага полу; трэцяй брыгады—30 чал., з іх 9 мужчын, 18 жанчын і 3 падлеткі мужчынскага полу і чацьвертай брыгады—31 чал., з іх 10 мужчын, 17 жанчын і 4 падлеткі, са складу кожнай паляводчай брыгады вылучан конюх-фуражыр.

## Камплектаваньне брыгад

Пры падборы людзей у брыгады праўленьне калгасу выходзіла з выкарыстаньня маючыхся ў калгасе спэцыялістаў па іх спэцыяльнасьці. Для абслугоўваньня жывёлагадоўлі вызначаны тыя калгасьнікі, якія маюць ужо вопыт у працы і паказалі лепшыя ўзоры працы ў мінулым годзе, а таксама месцазнаходжаньне скотнага двара каля вёскі Кругляк. Пры фармаваньні паляводчых брыгад улічаны навыкі ў працы і здольнасьці паасобных калгасьнікаў і бліжэйшая адлегласьць паселішча ад зямельнага вытворчага вучастку. Пры складаньні сьпісу брыгад самі калгасьнікі ўносілі папраўкі ў намёткі праўленьня, робячы заўвагі.

Агульны сход калгасьнікаў рашуча стаў на шляхі ліквідацыі абязьлічкі, зацьвердзіўшы прымацаваньне коняй за брыгадамі і ўнутры брыгад за паасобнымі калгасьнікамі. Сход устанавіў такі парадак, што калі патрэбна калгасьніку, да якога не прымацаваны коні, паехаць па сваіх справах, калгасьнік павінен загадзя папярэдзіць брыгадзіра, а апошні, калі знойдзе магчымым, прадастаўляе аднаго ці двух коняй. Агульны сход даручыў праўленьню калгасу ўстанавіць парадак карыстаньня коньмі для разьездаў па ўласных патрэбах выключна па памеру ўдзелу ў працы калгасу кожнага ў асобку калгасьніка.



**Калгасьніца** калгасу **„Камінтэрн"** Койданоўскага раёну тав. Грамовіч на курсах трактарыстаў пры Койданаўскай МТС.

Машыны, інвэнтар, збруя і перавозачныя сродкі прымацованы да брыгад, складаныя машыны прымацованы, выходзячы з разьмеру заданьня. Напрыклад, маючыя ў калгасе 3 касілкі і 3 конных грабель замацованы па адной касілцы і адных конных граблях за першай, другой і трэцяй брыгадамі. Маючыя жняяркі замацованы за першай брыгадай—2 штукі, за другой—адна, за трэцяй—дзьве і за чацьвертай—дзьве. Для працы на складаных машынах вылучаны пэўныя калгасьнікі з лепшымі коньмі.

Пасьля ўкамплектаваньня ўсіх сталых брыгад і вызначэньня адыходнікаў засталося 53 жанчыны, 16 мужчын і 29 падлеткаў. З гэтага ліку—6 чал. заняты на сталай рабоце (старшыня, палявод, 2 рахункаводы і 2 кладаўшчыка), 6 жанчын вылучаны для абслугоўваньня ясьляй, адзін

мужчына—для догляду за конскім маладняком і разьезднымі коньмі і 6 вартаўнікоў. З астатніх 47 жанчын і 3-х мужчын арганізавана адна сэзонная брыгада, якой вызначана вытворчае заданьне ў другім і трэцім пэрыядах палявых работ—ачыстка хмызьняку на 30 *га*, зрэзка куп'я на сенажаці і збор каменьня на 74 *га* (на канюшынішчы), у чацьвертым і пятым пэрыядах гэтая брыгада пераключаецца на копку торфу для падсьцілкі і апалу. У пэрыяды ўборкі сенажаці і бульбы, калі сталы склад брыгад будзе недастатковым для выкананьня ўсіх работ, гэтая брыгада разам з падлеткамі, якія ў гэты час аслабаняюцца ад вучобы, будуць зьяўляцца фактычна рэзэрвам, з якога будуць папаўняцца брыгады.

Першая, другая і трэцяя брыгады ў час другога пэрыяду (сяўба раньніх яравых) і ўсе 4 брыгады ў V пэрыядзе (уборка зернавых) ня будуць мець поўнай нагрузкі работ на вызначаных ім зямельных вытворчых вучастках для ўсяго сталага складу калгасьнікаў у гэтых брыгадах. Таму, праўленьне калгасу ўстанавіла такі парадак, што пасьля выкананьня палявых работ—брыгада цалкам з поўным сваім складам калгасьнікаў пераключаецца на вывазку каменьня, дапамогу бліжэйшаму саўгасу „Анаполь“ і на копку і возку торфу.

## Як калгас пабудаваў сыстэму кіраўніцтва

Да гэтага часу ў калгасе „1-га мая“ існавала 5 аддзяленьняў. У кожным аддзяленьні кіраваў аслабанёны ад фізычнай працы загадчык аддзяленьня. Кіраўніцтва аддзяленьнямі ажыцьцяўлялася старшынёй калгасу і яго намесьнікам. Зараз агульны сход калгасу зацьвердзіў іншы парадак. Агульнае, апэрацыйнае кіраўніцтва ўскладзена на старшыню калгасу.

Кіраўніцтва брыгадамі па паляводзтву ажыцьцяўляецца праз вылучанага палявода, які павінен сачыць за выкананьнем паляводчымі брыгадамі данага ім вытворчага заданьня, выкананьнем агратэхнічных правіл і за становішчам цягавай сілы, збруі і інвэнтару ў брыгадах. У яго абавязкі ўваходзяць: прыём работы ад брыгад, выдача брыгадам рабочых плянаў—нарадаў на пэрыядах, нагляд за правільным улікам працы, хаваньнем і аховай усяго сабранага ўраджаю, сваячасовай задачай (продажу) таварнай прадукцыі і рэгуляваньнем узаемадапамогі паміж брыгадамі. Для непасрэднага кіраўніцтва брыгадамі, праўленьне калгасу вызначыла на чале кожнай брыгады брыгадзіраў з ліку апраўдаўшых сябе ў мінулым годзе на працы калгасьнікаў. Брыгадзіры не аслабаняюцца ад фізычнай працы ў брыгадзе, а за кіраўніцтва брыгадай налічваецца па 1 сотай частцы з колькасьці працадзён; выпрацаванай брыгадай.

Стварэньнем вытворчых брыгад са сталым складам калгасьнікаў, як асноўнага зьвяна калгаснай вытворчасьці, калгас „Першага мая“ даб'ецца карэннага палепшаньня ў рабоце і становішчы гаспадаркі калгасу. Праўленьне калгасу ўжо правяло вялікую работу ў гэтым напрамку. Аднак, засталося яшчэ шмат зрабіць для таго, каб поўнасьцю правесьці ў жыцьцё плян арганізацыі брыгад і правільна расставіць сілы ў самой брыгадзе. Калгас „1-га мая“ зьяўляецца характэрным па свайму разьмеру, спэцыялізацыі і арганізацыйнай структуры (налічча некалькіх вытворчых вучасткаў) для шмат якіх калгасаў БССР. На яго прыкладзе арганізацыі брыгад калгасы будуць вучыцца. Аднак, патрэбна рашуча папярэдзіць тых, якія пры арганізацыі брыгад у астатніх калгасах падыходзілі-б да гэтага пытаньня схэматычна, ня ўлічваючы маючых асаблівасьцяй кожнага паасобнага калгасу.

**А. Залескі, Сьвяржынскі.**

---

# ЗЯМЛЯ ЗАЯЎЛЯЕ

*„Важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада“.*
(*ЦК УсеКП(б)*).

— Каб заўжды
    была я цяжарнай,
выношвала
    добры ўраджай—
напруджвай сілы,
    таварыш,
мяне
    даглядай,
        даглядай.
Я заяўляю:
    — ня рада
безадказнасьці
    гаспадароў.
Дайце мне
    сталыя брыгады—
па вырашчваньню
    важкіх снапоў...

* * *

За спалучэньне
    брыгаднай працы
з дасягненьнямі
    агра-навук
мы павінны
    змагацца й змагацца,
не пакладаючы
    рук.
Калі-ж
    не даглядзім мы
        глебы,
не дамо ёй
    патрэбны заквас—
з бульбаю,
    лёнам і хлебам
паскупіцца глеба
    для нас.
А зямля ня
    ўроджвае часта,
яе трэба
    браць на буксір.
За кожны
[illegible] засеены ўчастак
адказваеш ты,
    брыгадзір.
І каб быў
    ураджай вялікі—
пускай абязьлічку
    з ветрам.
Трымай
    на асобым уліку
кожны
    засеены гэктар.
Каб зямля
    была ў цяжары,
выношвала
    добры ўраджай—
напруджвай сілы,
    таварыш,
зямлю
    даглядай, даглядай.

**Тодар Алесін**

# ЗА ПЛЯНАВАНЬНЕ РАБОЧАЙ СІЛЫ У КАЛГАСАХ

Адным з галоўных, цэнтральных пытаньняў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, уздыму вытворчасьці калектыўнай працы зьяўляецца пытаньне плянаваньня рабочай сілы ў калгасах.

Задача ў тым, каб рабочую сілу правільна і максымальна скарыстоўваць, усільваючы рост вытворчасьці працы і гаспадаркі. Плян скарыстаньня рабочай сілы павінен быць кірункам да дзеяньня ў гэтай справе, таму плян рабочай сілы калгаса павінен быць сустаўным зьвяном усяго плянаваньня калгаснай вытворчасьці.

Плянаваньне рабочай сілы ў калгасах знаходзіцца ў цеснай сувязі з арганізаваным забесьпячэньнем рабочай сілай прамысловасьці і саўгасаў. Без плянаваньня рабочай сілы ня можа быць плянавага забесьпячэньня калгасамі працоўнай сілай, як прамысловасьці, так МТС, саўгасаў. Той самацёк, які быў да гэтага часу ў радзе калгасаў, павінен быць заменен сталым плянаваньнем.

Так, у калгасе „Колас“, Слуцкага раёну 20 калгасьніц бяз згоды праўленьня пашлі на будаўніцтва. Праўленьне калгасу патрабавала іх назад.

Такіх фактаў магчыма прывесьці шмат і ўсе яны гавораць аб адным: што калгасы яшчэ ня пераключаліся на выкананьнеаднэй з умоў тав. Сталіна,—аб арганізаваным наборы рабочай сілы, што калгасы яшчэ недастаткова ўявілі сабе важнасьць пытаньня аб плянавым забесьпячэньні рабочай сілай прамысловасьці.

Прыступаючы да плянаваньня рабочай сілы ў калгасах, трэба ўлічваць:

1) Вытворчае заданьне калгасу і заданьне па адыходніцтву; 2) наяўнасьць кваліфікаванай рабочай сілы (цесьляроў, маляроў, кавалёў, шахцёраў і г. д.) з тым, каб яна была накіравана ў напрамку выкананьня плянавага заданьня (у прамысловасьць, саўгасы і МТС); 3) наяўнасьць працаздольнасьці (мужчын, жанчын і падлеткаў), якія могуць прымаць удзел у вытворчасьці; 4) устанавіць колькасьць рабочых дзён у месяцы і сельскагаспадарчым пэрыядзе.

Патрэбы ў рабочай сіле калгасам вылічваюцца на падставе плянавага заданьня, вытворчага пляну і норм выпрацоўкі. Гэтыя фактары вызначаюць размер рабочай сілы, якая патрэбна для выкананьня плянавых вытворчых работ у калгасе.

Неабходна, каб рабочая кваліфікаваная сіла была найбольш рацыянальна і правільна скарыстана па сваёй спэцыяльнасьці ў калгасе.

Ня менш важнай справай пры плянаваньні рабочай сілы калгасу зьяўляецца скарыстаньне рабочай сілы жанчын. Жанчына павінна быць поўнасьцю ўцягнута ў працэс калгаснай вытворчасьці. Асабліва гэта павінна ўлічвацца пры камплектаваньні сталых вытворчых брыгад. Для лепшага скарыстаньня жаночай сілы трэба прымяняць практыку арганізацыі сталых жаночых брыгад.

Сацыялістычныя мэтады працы павінны быць сустаўным зьвяном пляну скарыстаньня рабочай сілы. Плян будзе рэальным тады, калі ў яго складаньні прымуць шырокі ўдзел масы калгасьнікаў, калі ім будзе ўлічана сацыялістычнае спаборніцтва, і ўдарніцтва, калі ён сам будзе зьяўляцца штурхачом у разгортваньні сацыялістычных мэтадаў працы. Адсюль задача разгортваньня шырокай палітыка-масавай работы вакол складаньня і рэалізацыі вытворчага пляну калгаса.

„Было-б шкодным думаць, што вытворчы плян зводзіцца да пераліку лічбаў заданьняў. На самай справе вытворчы плян ёсьць жывая і практычная дзейнасьць мільёнаў людзей. Рэальнасьць нашага пляну—гэта мільёны працоўных, якія твораць новае жыцьцё. Рэальнасьць нашай праграмы—гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, гэта наша гатоўнасьць працаваць па-новаму“—Сталін.

Палітычна масавая работа вакол складаньня і выкананьня вытворчага пляну дапаможа калгасу па сапраўднаму мабілізаваць актыўнасьць мас на выкананьне і перавыкананьне пастаўленых перад калгасам задач.

**Д. Ф.**

## ТОЛЬКІ Ў 62 КАЛГАСАХ АРГАНІЗАВАНЫ БРЫГАДЫ

(*Рагачэўскі раён*)

**„Важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах зьяўляецца правільна пабудаваная вытворчая брыгада, як асноўная вытворчая адзінка ў калгасе“.** (З пастановы ЦК КП(б)Б). Між тым ход працы па арганізацыі вытворчых брыгад па калгасах нашага раёну паказвае, што гэтая задача не заняла належнага месца ў штодзеннай рабоце калгасаў. Паводле матар'ялаў Райкалгассаюзу, на 21-III—з 131 маючыхся ў раёне калгасаў вытворчыя брыгады арганізаваны толькі ў 62 калгасах. Паляводных брыгад арганізавана ўсяго толькі 48, садова-гародніх 8, жывёлагадоўчых 23, сьвінагадоўчых 9 і конягадоўчых 14 брыгад.

Паасобныя калгасы раёну—імя Сталіна, імя Калініна, „Інтэрнацыянал“, „Ударнік“ ды інш., уявіўшы гаспадарча-палітычную важнасьць правільнай арганізацыі працы ў калгасах,—арганізавалі адпаведную колькасьць вытворчых брыгад. Так, у калгасе імя Калініна (Забалоцкі сельсавет) арганізавана 2 паляводчых, 1 садова-гародная, 1 конягадоўчая і 1 жывёлагадоўчая брыгады. Жывёлагадоўчая брыгада па догляду за жывёлай ліквідавала абязьлічку, замацаваўшы за кожнай даяркай адпаведную колькасьць кароў, якіх яна даглядае і за якіх нясе адказнасьць.

У калгасе імя Сталіна (Запольскі сельсавет) арганізавана дзьве паляводчыя брыгады, 1 садова-гародная, 1 жывёлагадоўчая, 1 сьвінагадоўчая і 1 конягадоўчая.

Але поруч з гэтым маецца цэлы рад калгасаў—„Чырвоны Грабаў“, „Чырвоная дубрава“ (Гадзілавіцкі сельсавет), „Чырвоная Друць“ (Запольскі сельсавет), „Чырвоная Слабада“ (Сьвержанскі сельсавет), „Чырвоная Ніва“ (Станькаўскі сельсавет) ды іншыя, да гэтага часу не прыступілі да арганізацыі сталых вытворчых брыгад.

Апартуністычнай недаацэнцы ў справе арганізацыі вытворчых брыгад трэба пакласьці канец. Райкалгассаюз, парт'ячэйкі, сельсавет і праўленьні калгасаў на месцах павінны неадкладна ўзьняць тэмпы працы па арганізацыі брыгад, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на падбор і падрыхтоўку брыгадзіраў.

**Я. С.**

# МТС—у авангард барацьбы за выкананьне плянӑў сяўбы!

## БРЫГАДА тав. КАЗІНА

(*Нарыс*)

Брыгадзір Матыцкі — высокі і здаровы мужчына з маленькімі рыжымі вусамі і вялікай кучаравай чупрынай. Калі ён гаворыць на сходзе, або на вытворчай нарадзе — твар яго чырванее, — словы як чыгунныя балванкі сыплюцца ў такт узмахаў яго вялікай дужай рукі...

— Гэда недарэчнасьць, калі рабочыя майстэрні цікавяцца толькі колькасьцю, — гучна гаворыць ён...—Я першы ў сваёй брыгадзе паставіў нераздучна колькасьць і якасьць... Што-ж гэта за рамонт, калі брыгада Казіна адрамантавала трактар, які не дайшоў да саўгасу!—Гэта ж недарэчнасьць, хлопцы.

Вось ён стаіць ля стала з засунутай рукой за пазуху і глядзіць проста ў вочы брыгадзіру Казіну. Яго твар праз густую чырвань паказвае абуранасьць і нездаволенасьць. У яго вачох сьвецяцца тоненькі, але празрысты агенёк запалу.—

— Дык, што-ж, хлопцы, хіба няпраўда, га?

У пакоі зноў маўчаньне. Брыгадзір Казін маўчыць, але гэта хвіліннае маўчаньне. Ён паступова зьбірае словы і ня можа іх сабраць ад колькасьці тоненькіх агенькаў, якія сьвецяцца з вачэй Матыцкага.

Брыгадзір Казін—малады хлапец, сакратар камсамольскай ячэйкі, былы бяспрытульны. Ён часамі ўспамінае жудасьць свайго валацужнага жыцьця, успамінае панэль Масквы, галодныя дні ў Батуме... Яго больш усіх крыўдзяць словы Матыцкага. Яму робіцца куды цяжэй за самыя жахлівыя ўспаміны аб мінулым. Гаворка яго маўклівая, шурпатая. Твар запоўнены чырваньню і сорамам.

— Дык што ж... ну... Ну мы бярэм на сябе віну, за той трактар... Ну, што-ж, хлопцы,—зьвяртаецца ён да сваёй брыгады,—мы вінаваты. Зараз не дапусьцім гэтага... праўда, га? Даеце слова?

У брыгадзе Казіна адны маладыя хлопцы, у большасьці камсамольцы. Яны не праходзілі ніякае школы, ніякіх курсаў па рамонтнай справе. Яны не даўлічылі маленькай трэшчыны ў падшыпніку і трактар не пашоў... Дык ці-ж гэта іхняя віна? Так, гэта іхняя віна. І Казін з гонарам бярэ яе на сябе.

— Мы вінаваты. Так. Нам трэба яшчэ пільней аднесьціся да сваей справы. Я прапаную арганізаваць гурток падвышэньня нашай кваліфікацыі.

На тэй-жа нарадзе быў створаны гурток .У гурток запісалася палова рабочых.

Брыгады ўступілі ў сацспаборніцтва.

Яшчэ два месяцы таму назад Танежыцкая майстэрня распачала падрыхтоўку да рамонтнай кампаніі. Ва ўсе калгасы і саўгасы былі пасланы спэцыяльныя брыгады па ўліку трактароў і сельскагаспадарчага інвэнтару, якому неабходзен рамонт. Быў выпрацаваны вытворчы плян рамонту ўсяе майстэрні. Кожная брыгада атрымала свой дэкадны плян.

У майстэрні душна. З вялікага чорнага горану шугаюць прыгожымі зеленаватымі вянкамі — іскры. З вялікім молатам стаіць ля кавадла Казін. Ад кожнага ўдару па белым раскаленым кавалку жалеза пырскаюць іскры. У майстэрні ня чутна размоў. Зрэдку чуваць гучныя словы таварыша Казіна да сваё брыгады:

— Гэй, Мішка!

Мішка ведае, пра што гаворыць Казін. Мішка кінуў на дол, на якім шмат гразі і лому, бабіны, якія можна або папсаваць, або зусім згубіць. Мішка доўга не чакае. Ён зараз-жа выпраўляе сваю памылку і ў майстэрні зноў усё спакойна.

... Сыплюцца ад горанаў зеленаватыя іскры.
Стукаюць малаткі, зьвіняць напількі...

---

Раніца. У майстэрню толькі пачалі зьбірацца рабочыя. Блёклае сьвятло ня зусім добра асьвяціла сьцены майстэрні. На сьцяне вісела вялікая размаляваная чырвонымі алоўкамі насьценгазэта. Вочы рабочых бегаюць, як на шальках, па нязграбна напісаных радкох.

„... Брыгада Матыцкага за 1 дэкаду плян выканала на 90 проц., за другую на 102...“.

„... Брыгада Працькі за першую дэкаду выканала плян на 87 проц., за другую на 103...“.

„... Брыгадз Казіна за 1 дэкаду... на 80... за другую на 120 проц...“.

— Малайцы, камсамольцы!—зноў замахаў рукамі Матыцкі.

— Як малайцы?—усьміхаючыся запытаў Казін.

— Тэмпы даюць!—адказаў Матыцкі.

Брыгада зноў станавілася на сваё месца за працу.

Соцспаборніцтва з кожным днём узмацнялася.

Усе пільна сачылі за ходам спаборніцтва. Насьценгазэта штодзенна давала зводку аб выкананьні дзённага пляну брыгадамі.

Раней нельга было адшукаць перадавога. Лічбы, як шалёныя скакалі то ўніз, то ўгару. Траплялiся дні, што брыгада Матыцкага абганяла ўсіх, то хутка, як шторм, яе абганяла брыгада Казіна. Усё-ж лінія перадавых то апушчалася, то зноў падымалася, то па брыгадзе Матыцкага, то Казіна.

---

Зараз майстэрня поўнасьцю адрамантавала трактар і сельскагаспадарчы інвэнтар. Пяршынство ўзяла брыгада Казіна, якая выканала свой вытворчы плян на 140 проц. Поплеч ідзе брыгада Матыцкага—яна дала—139,2 проц. і ўсьлед ішлі апошнія чатыры брыгады. Яны выканалі свае пляны ад 120 да 130 проц.

Лепшыя брыгады прэміяваны. Зараз майстэрня Танежыцкай МТС бярэ на буксір адстаючую майстэрню ў бліжэйшай МТС.

**К. Грыневіч.**

Танежыцкая МТС.

# ТРАКТАР—НА ГАСПАДАРЧЫ РАЗЬЛІК

**„Умацаваць і ўмацоўваць гаспадарчы разьлік, узьняць унутрыпрамысловае накапленьне — такава задача“. (І. СТАЛІН).**

Гаспадарча-разьліковыя брыгады зьяўляюцца аднэй з вышэйшых форм сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Саўгасы і МТС павінны рашуча паставіць перад сабой задачу, асабліва ў час правядзеньня трэцяй бальшавіцкай сяўбы, канчаткова ўкараніць гаспадарчы разьлік, зрабіць паасобныя цэхі ўпаўне самастойнымі вучасткамі гаспадаркі, маючыя свае асобныя прамфінпляны і сродкі вытворчасьці.

У час правядзеньня веснавой сяўбы ў аснову гасразьліку саўгасам і МТС неабходна ўзяць асобны трактар з усім яго прычэпным інвэнтаром і сродкамі вытворчасьці, так званы трактарны агрэгат. У даным выпадку на гасразьлік пераводзяцца брыгады ўсіх трактарных агрэгатаў (трактарысты і рабочыя, якія абслугоўваюць прычэпныя машыны і інвэнтар, прычым склад гасразьліковай брыгады павінен быць сталым да сканчэньня тых ці іншых работ (сяўба, уборка і г. д.).

Праз заключэньне дагавору брыгады з адміністрацыяй аддзяленьня саўгасу, або вытворчага вучастку МТС праводзіцца афармленьне гасразьліковай брыгады трактарнага агрэгату.

Заданьне—нарад, якое выдаецца адміністрацыяй брыгадзе, зьяўляецца галоўнай асновай гэтага гасразьліковага дагавору. У заданьні—нарадзе адміністрацыя вызначае для брыгады свае колькасныя і якасныя паказчыкі, якія брыгадай ні ў якім разе не зьмяншаюцца, а, наадварот, могуць быць павялічаны (і гэта неабходна) шляхам высоўваньня сустрэчных абавязацельстваў па вызначаным заданьні — нарадзе: павялічэньне норм выпрацоўкі, скарачэньне тэрміну вытвараемых работ, эканомія гаручых і змазачных матар'ялаў, павялічэньне тэрміну службы прычэпных машын, інвэнтару і частак самых трактараў і г. д. У гасразьліковым дагаворы павінны быць адзначаны таксама сустрэчныя паказчыкі брыгады па пытаньнях зьніжэньня сабекоштоўнасьці ўзорваньня аднаго *га*, поўнай ліквідацыі прастояў трактара, прагулаў і спазьненьняў на працу з боку рабочых, безумоўнага выкананьня ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў пры ўзорваньні глебы. Гэта самаабавязацельствы гасразьліковай брыгады.



Рамонт трактара на Койданаўскай МТС

Адміністрацыя з свайго боку бярэ на сябе па дагавору наступныя самаабавязацельствы: а) не пазьней як за 5—7 дзён да пачатку выкананьня тых ці іншых работ даваць брыгадзе заданьні — нарады, у якіх канкрэтна паказаць, што брыгада павінна зрабіць у даны адрэзак часу; б) дастаўляць гаручыя і змазачныя матар'ялы своечасова на месца вытвараемых работ; в) пры першым запатрабаваньні брыгады дастаўляць неабходныя запасныя часткі і інструманты, вытвараць папярэджальны рамонт трактару і прычэпных да яго машын і інвэнтару; г) своечасова даводзіць да брыгады плянавыя заданьні па зьніжэньні сабекоштоўнасьці вытвараемых брыгадай работ; д) у тэрмін праводзіць выплату прэмій брыгадзе за перавыкананьне заданьняў, эканомію рабочага часу, гаручых і змазачных матар'ялаў; е) арганізаваць штодзенны і правільны ўлік вытвараемых штодзенна брыгадай работ; ж) палепшыць культурна-бытавыя ўмовы рабочых (грамадзкае харчаваньне, забесьпячэньне; клюбы, хаты-чытальні, радыё і г. д.).

Такім чынам праз заключэньне такога дагавору ў узаемных абавязацельствах паміж брыгадай і адміністрацыяй праводзіцца канчатковае афармленьне гасразьліковай брыгады трактарнага агрэгату.

Склад брыгады ўкамплектоўваецца адміністрацыяй. Аднак пры пераходзе на гаспадарчы разьлік, брыгада мае права патрабаваць ад адміністрацыі выключэньне з брыгады таго ўдзельніка, які, ня гледзячы на заключаны дагавор, позьніцца на работу, робіць прагулы, зрывае працдысцыпліну і гэтым самым перашкаджае пасьпяховаму выкананьню заданьня—нарада і сустрэчнага пляну. У гэтым выпадку адміністрацыя павінна зараз-жа выключыць такога ўдзельніка з брыгады і замяніць яго новым.

Асабліва вялікае значэньне адыгрывае пры арганізацыі брыгаднага гасразьліку ў справе наладжваньня ўсёй работы ў брыгадзе трактарнага агрэгату — брыгадзір. Апошні не абіраецца ў брыгадзе, а выключна назначаецца адміністрацыяй. Да пытаньня вызначэньня брыгадзіра, адміністрацыя павінна падыходзіць са ўсёй сур'ёзнасьцю. Брыгадзір павінен быць высокакваліфікаваным. Лепшым ударнікам на вытворчасьці, арганізатарам мас. Ён ні ў якім разе не аслабаняецца ад выконваемай на вытворчасьці работы, а толькі за арганізацыю працы ў брыгадзе, за сыстэматычнае кіраўніцтва ёю, акрамя прэміі, атрымліваемай усёй брыгадай—яшчэ атрымлівае прыкладна ў разьмеры 25 проц. яго месячнай заработнай платы. Брыгадзір — гэта адказны адміністратар сваёй брыгады. Ускладзеную на яго работу ён павінен выконваць на аснове яшчэ больш шырокага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж усімі ўдзельнікамі брыгады на лепшае і хутчэйшае выкананьне заданьняў — нарадаў і высунутых па дагавору сустрэчных паказчыкаў працы.

Брыгадзір павінен устанавіць поўную адказнасьць кожнага ўдзельніка брыгады за даручаную яму работу, замацаваўшы за ім належныя сродкі вытворчасьці. У тых мясцох, дзе трактарныя агрэгаты ў час сяўбы, або ўборкі будуць працаваць у тры

зьмены, адказнасьць за сродкі вытворчасьці нясуць 3 чалавекі. У гэтым выпадку трактарыст, перадаючы свой трактар для работы зьменнаму таварышу—другому трактарысту, павінен браць у апошняга дакумант, які-б сьведчыў аб становішчы трактара (цэласьць яго, заўважаныя паломкі і г. д.).

Пасьля работы, брыгадзір павінен добра абгледзець трактар і прычэпныя машыны і, заўважыўшы палом дэталяў, або знашэньне іх, безадкладна прыняць меры да хутчэйшага рамонту іх. Абязьлічка ў скарыстаньні гаручых і змазачных матар'ялаў павінен быць ліквідавана.



Падрыхтоўка с-г. інвэнтару ў калгасе.

Пытаньне правільнай арганізацыі заработнай платы кожнага ўдзельніка брыгады—рашаючае зьвяно ў рабоце цалкам усяе гасразьліковай брыгады. Ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб панавала ўраўнілаўка ў зарплаце кожнага ўдзельніка гасразьліковай брыгады. Заработная плата павінна выплачвацца па колькасных і якасных паказчыках праробленай работы кожным удзельнікам брыгады ў паасобку.

Адміністрацыя аддзяленьня саўгасу або вытворчага вучастку МТС павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку штодзеннага і правільнага ўліку працы кожнага трактарыста, кожнага рабочага, які абслугоўвае прычэпныя машыны і інвэнтар.

За наладжаньне ўліку вытвараемых работ у гасразьліковай брыгадзе адказнасьць нясе брыгадзір. Разам з адміністрацыяй брыгадзір павінен так паставіць улік працы, каб кожны ўдзельнік брыгады на другі дзень ведаў колькасьць праробленай ім учора работы.

Калі гасразьліковая брыгада перавыконвае паказчыкі, вызначаныя адміністрацыяй у галіне эканоміі гаруча-змазачных матар'ялаў, па выдатку запасных частак, розных інструмантаў і інш., тады адміністрацыя абавязана прэміяваць гэтую брыгаду. Прэміяваньне вытвараецца яшчэ і за перавыкананьне норм выпрацоўкі (узорваньне і за захаваньне машын і інвэнтару).

Як можна прадугледзіць захаваньне машын і інвэнтару брыгадай і якую па разьмеры ў гэтай галіне патрэбна вызначыць прэмію?

Па заданьні адміністрацыяй прадугледжана, напрыклад, для вытварэньня бягучага рамонту на даны адрэзак часу работы трактарнага агрэгату—выдаткаваць 80 руб. Аднак, дзякуючы добрым беражлівым адносінам да машын і інвэнтару з боку ўдзельнікаў брыгады рамонт, быў вытваран, толькі каштоўнасьцю ў 50 р., або за ўвесь вызначаны час рамонт зусім не патрабаваўся. Значыць, брыгаду патрэбна прэміяваць за атрыманыя 30 р. эканоміі, або ў апошнім выпадку (калі на рамонт ніякіх сродкаў не затрачана — прэміруецца брыгада за поўную эканомію гэтых 80 р.

Такім жа чынам вытвараецца прэміяваньне брыгады і за эканомію гаруча-змазачных матар'ялаў, за перавыкананьне норм выпрацоўкі па ўзорваньні глебы і г. д.

Прэмія выдаецца брыгадзе зараз-жа пасьля поўнага сканчэньня работ, вызначаных заданьнем па паасобных групах паказчыкаў не ў залежнасьці ад таго, выкананы другія паказальнікі працы, ці не. Разьмер прэміі дакладна прадугледжваецца сацыялістычным дагаворам (ад 20 да 60 проц. атрыманай брыгадай эканоміі) па кожным паказчыку працы ў асобку.

Пры атрыманьні прэміі задача заключаецца ў тым, каб гэтую прэмію правільна разьмеркаваць паміж усімі ўдзельнікамі брыгады. Ураўнілаўкі пры разьмеркаваньні прэмій ні ў якім разе не павінна быць.

Індывідуальная зьдзельшчына ў гасразьліковай брыгадзе павінна быць цьвёрда захавана.

Работу па пераводзе трактарных агрэгатаў на гаспадарчы разьлік патрэбна разгортваць ужо зараз, каб у першыя дні правядзеньня сяўбы кожны трактар і прычэпныя да яго машыны і інвэнтар былі на гаспадарчым разьліку.

Трыкутнікам саўгасаў патрэбна, перш чым правадзіць трактарныя агрэгаты на гасразьлік, шырока правесьці сярод рабочых масава-растлумачальную работу па гэтым пытаньні, абгаварыць на вытворчых нарадах і сходах рабочых.

На працягу ўсяго часу работы брыгады патрэбна сыстэматычна рабіць праверку выкананьня ўзаемных абавязацельстваў, прадугледжаных дагаворам.

Трэба дабіцца, каб у час правядзеньня пасеўнай кампаніі кожны трактар і прычэпны да яго інвэнтар былі пераведзены на гаспадарчы разьлік.

Ян. Палескі.

# ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ЗАВОЧНІКАЎ КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫМІ ПУНКТАМІ

## (Тэма трэцяя)

На кансультацыйныя пункты, пры завочнай падрыхтоўцы кадраў, ускладаецца надзвычайна адказная роля. У прыватнасьці на іх укладаецца: а) прапаганда ідэі завочнага навучаньня і ўцягваньне ў завочнае навучаньне працоўных мас; б) кіраўніцтва вучобай завочнікаў шляхам сыстэматычнага правядзеньня вуснай кансультацыі, як з брыгадамі, гэтаксама і з паасобнымі завочнікамі; в) арганізацыя сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж брыгадамі і паасобнымі завочнікамі ў вучобе, рацыяналізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці, вынаходніцтва, дасьледчай справе і г. д.; г) арганізацыя выставак па пытаньнях вучобы, рацыяналізацыя сельскагаспадарчай вытворчасьці; д) кіраўніцтва ў выкананьні завочнікамі вучэбна-вытворчых заданьняў; е) правядзеньне падрыхтоўчай працы па арганізацыі курсаў-канфэрэнцый і праходжаньні лябораторнай практыкі, інструктаж па арганізацыйна-мэтадычных пытаньнях лябараторнай практыкі і забясьпечаньне адпускоў на лябораторную практыку згодна навучальнага пляну завочнага сэктару; ж) кантроль над выкананьнем завочнікамі вытворчых заданьняў з удзелам завочнікаў у правадзімых гаспадарча-палітычных кампаніях, а таксама над выкананьнем прамфінпляну саўгасаў, калгасу, МТС; з) улік пасьпяваемасьці завочнікаў і выкананьня імі вытворчых заданьняў для забясьпечаньня прасоўваньня завочнікаў на вытворчасьці.

Асабліва адказная роля на кансультацыйныя пункты ўскладаецца пры падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі. Падрыхтаваць гэтыя кадры завочна без кансультацыйных пунктаў амаль нельга. Між тым пытаньне арганізацыі кансультацыйных пунктаў шмат якімі гаспадарчымі арганізацыямі не дааценьваецца, кансультацыйных пунктаў у большасьці саўгасаў, калгасаў, МТС яшчэ няма. І гэта ня гледзячы на рад пастаноў па гэтым пытаньні вышэйшых органаў. Многія думаюць, што арганізоўваць кансультацыйныя пункты трэба толькі тады, калі будуць завочнікі, забываючы пры гэтым, што ў задачы кансультацыйнага пункту як раз і ўваходзіць прапаганда ідэі завочнага навучаньня і ўцягваньне ў завочную вучобу шырокіх мас працоўных. У пастанове СНК БССР ад 23 V—31 г. якраз падкрэсьліваецца гэты бок працы кансультацыйных пунктаў:

„З мэтай актыўнага ўцягненьня ў сыстэму завочнага навучаньня шырокіх мас рабочых для падвышэньня іх агульнай асьветы і тэхнічнай кваліфікацыі, прапанаваць усім установам, якія вядуць завочнае навучаньне, шырока разгарнуць сетку нізавых ячэек па завочным навучаньні на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах і г. д.".

Пастановай калегіі НКЗ СССР ад 26-IX—31 г. дадзены падрабязныя паказаньні аб тым, хто і калі павінен арганізаваць кансультацыйныя пункты.

„Апэрацыйнае кіраўніцтва і адказнасьць за завочную падрыхтоўку кадраў, як па лініі вытворчасьці (саўгасаў, МТС, калгасаў)—камплектаваньне, арганізацыя брыгад завочнікаў, вытворчае іх навучаньне, стварэньне ўмоў для пасьпяховай вучобы завочнікаў, прасоўваньне іх у вытворчасьці, радыёфікацыя пунктаў вучобы,—гэтак сама і па лініі сэктараў завочнага навучаньня і навучальных устаноў—ускласьці на зямельныя органы, гаспадарчыя арганізацыі і калгасную сыстэму.

Выдаткі па арганізацыі навучальных мерапрыемстваў для завочнікаў на вытворчасьці (утрыманьне кансультацыйных пунктаў, вытворчае навучаньне, навочныя навучальныя дапаможнікі) аднесьці на сродкі гаспадарчых аб'яднаньняў і калгаснай сыстэмы, прадугледзеўшы гэтыя выдаткі па вытворча-фінансавым пляне.

Гаспадарчым аб'яднаньням, калгаснай сыстэме, зямельным органам і іх нізавым зьвеньням не пазьней 25 кастрычніка арганізаваць у саўгасах, МТС, калгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах і ўстановах кансультацыйныя пункты, прымацаваўшы кадры спэцыялістых для кіраўніцтва навучаньнем завочнікаў, усклаўшы на ВНУ і тэхнікумы мэтадычнае кіраўніцтва працай кансультантаў".

Тэрмін арганізацыі кансультацыйных пунктаў вызначан і ў загадзе Наркома земляробства БССР тав. Рачыцкага аб правядзеньні месячніка завочнага навучаньня. У загадзе сказана:

„Арганізаваць па ўсіх саўгасах, МТС і больш буйных калгасах не пазьней 20-X—31 г. кансультацыйныя пункты для аказаньня жывой дапамогі ва ўчобе завочнікаў, забясьпечыўшы іх кадрамі спэцыялістых і кіруючых працаўнікоў".

А яшчэ да гэтага калегіяй НКЗ БССР ад 30-VIII—31 г. было пастаноўлена:

„Абавязаць дырэктароў ВНУ, тэхнікумаў і гаспадарчых арганізацый максымальна разгрузіць спэцыялістых, вылучаных для кансультацыі завочнікаў, ад іншых грамадзкіх абавязкаў, улічваючы гэтую работу як асноўную нагрузку..."

Гаспадарчымі арганізацыямі гэтыя дырэктывы пакуль што ня выкананы. Нават тыя трэсты, якія абавязаліся па дагавору рэспубліканскім інстытутам арганізаваць кансультацыйныя пункты—не арганізавалі іх. Такое становішча, бязумоўна, тармазіць працу разгортваньня завочнага навучаньня. Трэба як найхутчэй ліквідаваць гэтае адставаньне. Пачын у арганізацыі кансультацыйных пунктаў павінны узяць на сябе партыйна-камсамольскія і прафэсыянальныя арганізацыі сумесна з завочнікамі.

Кансультацыйны пункт можа быць арганізаван ці непасрэдна на вытворчасьці ці, лепш усяго, у ШКМ і іншых навучальных установах, калі яны знаходзяцца недалёка ад асноўнай масы завочнікаў. Вопыт былага завочнага калгаснага унівэрсытэту ў Горках паказаў, што пры аддаленьні кансультацыйнага пункту больш як за 5 кілёмэтраў, наведваць кансультацыйны пункт, асабліва ў дрэннае надвор'е, альбо пры пры дрэннай дарозе—цяжка. Таму, пажадана, каб кансультацыйны пункт быў зусім блізка ад завочнікаў. Выключэньне можа быць толькі для кансультацыйных пунктаў, якія арганізоўваюцца на дасьледчых станцыях, альбо ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, куды могуць зьяўляцца і з больш далёкіх месц.

Для таго, каб арганізаваць кансультацыйны пункт, трэба: а) памяшканьне, б) абсталяваньне і в) кансультанты. Асобны пакой у клюбе, школе, бібліатэцы—лепш за ўсё. Калі няма асобнага пакою, трэба дагаварыцца, каб у вызначаны для працы кансультацыйнага пункту час, памяшканьне было свабоднае.

З абсталяваньня на кансультацыйным пункце павінна быць: належная колькасьць сталоў і крэслаў для наведвальнікаў, асобны стол для кансультанта, пажадана дошка, шафа для кніг і навучальных прыладаў, добрае асьвятленьне. Гэта асноўнае абсталя-

ваньне самога пакою. З навучальнага абсталяваньня: літаратура, навочныя і іншыя прылады, падручнікі, перш за ўсё тыя, па якіх займаюцца завочнікі дома. Па-другое, дадатковая літаратура па тых-жа пытаньнях, якія прапрацоўваюцца завочнікамі. Па-трэцяе, справачнікі, слоўнікі, праспэкты, часопісі, газэты і, па чацьвертае, літаратура па арганізацыі і мэтодыцы завочнага навучаньня і працы кансультацыйных пунктаў. З навочных прыладаў—мадэлі машын, пабудоў, чарцяжы, глёбус, геаграфічная карта, канторскія счоты, гатавальні і інш.

Асноўнае ў працы кансультацыйнага пункту—кансультанты. На кансультпункце пры навучальнай установе—кансультантамі зьяўляюцца выкладчыкі гэтай установы, на вытворчасьці—спэцыялістыя данай і бліжэйшых гаспадарак, настаўнікі, партыйна-камсамольскі актыў, студэнты стацыянарных навучальных установ у час адбываньня імі вытворчай практыкі. Не разьлічваючы толькі на платных кансультантаў, трэба скарыстаць усе магчымасьці ўцягненьня кансультантаў у парадку грамадзкай працы.

Кансультант павінен ведаць характар выконваемай працы на вытворчасьці кожнага завочніка і пры кансультацыі выходзіць з гэтай працы, дапамагаць завочніку скарыстаць здабытыя веды ў сваёй вытворчасьці, праверыць гэтае выкананьне. Кансультант павінен абудзіць зацікаўленасьць завочніка да вынаходніцтва і рацыяналізацыі сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці; павінен як мага ў большай ступені ўжываць канкрэтныя, узятыя з буйнай сацыялістычнай вытворчасьці, прыклады, імкнуцца проста, сьцісла і ў той-жа час яскрава даваць тлумачэньні.

Вусная кансультацыя павінна ўвесь час дапаўняцца навучаньнем і паказам непасрэдна на вытворчасьці.

Для лепшай пастаноўкі працы кансультант павінен быць шчыльна увязаны ня толькі з вытворчасьцю, але-ж і з завочным сэктарам, на які ўскладзены абавязкі вучэбна-мэтадычнага кіраўніцтва працай кансультпункту.

Завочнае навучаньне зьяўляецца адным з відаў навучаньня без адрыву ад вытворчасьці. Акрамя завочнікаў, на вытворчасьці будуць і такія таварышы (альбо гурткі), якія займаюцца вывучэньнем таго ці іншага пытаньня, не зьяўляючыся завочнікамі.

Гэтым таварышом і гурткам таксама павінна быць аказана дапамога на кансультацыйным пункце. Таму, няма сэнсу на адным прадпрыемстве арганізоўваць два кансультацыйныя пункты—для завочнікаў і не завочнікаў. Кансультпункт павінен быць адзін, з пэўна вызначанымі гадзінамі для кансультацыі пэўных груп і паасобных таварышоў.

Плянаваньне працы і ўлік праробленай працы зьяўляецца абавязковым для кожнага кансультацыйнага пункту.

**В. Крэйдзіч.**

# ТАВАРЫШЫ ЗАВОЧНІКІ!

Перад сыстэмай с.-г. завочнага навучаньня БССР, партыяй і ўрадам пастаўлена вялізарная задача—падрыхтаваць у найкарацейшы тэрмін без адрыву ад вытворчасьці некалькі дзесяткаў тысяч спэцыялістых вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай кваліфікацыі, а таксама перападрыхтаваць значную частку маючыхся спэцыялістаў.

Вырашыць гэтую задачу найбольш пасьпяхова мы зможам толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу ў гэтай справе ўсёй савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу саміх завочнікаў. Актыўнасьць завочнікаў павінна заключацца ня толькі ў прапрацоўцы вучэбнага матар'ялу (заданьняў), ня толькі ў працы на вытворчасьці і ў грамадзкай працы, але і ў вырашэньні тых арганізацыйных і вучэбна-мэтадычных пытаньняў, якія паўстаюць перад завочнай сыстэмай і перад кожным завочнікам у працэсе працы.

Таму надзвычайна вялікае значэньне набывае абмен вопытам паміж паасобнымі брыгадамі, кансультацыйнымі пунктамі, завочнікамі. Кожнае дасягненьне аднэй брыгады, кансультацыйнага пункту і г. д., мы павінны як найхутчэй перадаваць другім брыгадам, кансультацыйным пунктам, завочнікам. Зрабіць гэта лепш за ўсё праз друк, у прыватнасьці **праз часопісь „Шляхі калектывізацыі“**, на старонках якой сыстэматычна зьмяшчаюцца артыкулы па завочным навучаньні.

**Таварышы завочнікі! Асьвятляйце вашу працу ў часопісі „Шляхі калектывізацыі“**, абменьвайцеся дасягненьнямі, вопытам. Пішэце, як на мясцох (саўгас, калгас, МТС) праводзіцца папулярызацыя завочнага навучаньня; як працуюць кансультацыйныя пункты; як праводзіцца праца ў вучэбных брыгадах і паасобку кожным завочнікам, як разгортваецца сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як скарыстоўваецца радыё. Якія маюцца недахопы з боку завочных сэктароў пры залічэньнях, дасылцы заданьняў, кіраўніцтве вучобай і г. д.

Пішэце аб усіх пытаньнях завочнага навучаньня. Указвайце на недахопы і перашкоды ў працы. Высоўвайце канкрэтныя прапановы аб палепшаньні працы. Стаўце пытаньні на калектыўнае абгаварэньне.

Кожны завочнік павінен зьяўляцца актыўным прапагандыстам завочнага навучаньня, актыўным барацьбітом за стварэньне належных умоў для пасьпяховай вучобы.

Матар'ял накіроўвайце непасрэдна ў рэдакцыю часопісі „Шляхі калектывізацыі“—Менск, Савецкая 68.

**Беларускі Рэспубліканскі інстытут завочнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі сельска-гаспадарчых кадраў.**

**Рэдакцыя часопісі „Шляхі калектывізацыі“**

# ПРАВІЛЫ ЎНЯСЕНЬНЯ МІНЭРАЛЬНЫХ УГНАЕНЬНЯЎ ПАД ЛЁН

Згодна пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР у гэтым годзе кожны калгас, саўгас павінен павялічыць ураджайнасьць тэхнічных культур на 15 проц. альбо сабраць з 1 *га* плошчы ня менш 2,6 *цнт* валакна лёну. Такое павялічэньне часткова мы можам зрабіць праз правільнае ўжываньне мінэральных угнаеньняў.

Лён—расьліна з вельмі вялікімі запатрабаваньнямі да глебы і высокія ўраджаі лёну магчыма атрымаць толькі тады, калі ў глебе шмат будзе спажыўных матэрый. Лён, як і ўсе расьліны, больш усяго патрабуе азоцістых, калійных і фасфарытных угнаеньняў. Лён з 1 *га* плошчы пры кожным ураджаі бярэ азоту 45 *кгр*, калія 45 *кгр*, фасфарнай кіслаты 30 *кгр* і вапны каля 33 *кгр*.

Калі такую колькасьць перавесьці на мінэральныя ўгнаеньні, дык атрымаем калійнай 15-проц. солі патрэбна каля 300 *кгр*, сернакіслага амонія каля 200 *кгр* і 15-процантнага супэрфасфата каля 200 *кгр* на 1 *га* плошчы. (Гэтыя лічбы ўзяты пры сярэднім ураджаі лёну). Перш чым гаварыць аб мінэральных угнаеньнях, патрэбна застанавіцца на натуральным угнаеньні (гной). Гной пры ўнясеньні пад лён дае ня зусім добрыя вынікі, сьцябло тоўстае, кароткае, кепскай якасьці. Таму ляпей гной замяняць мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Таксама патрэбна застанавіцца на вапне, якая дрэнна адбіваецца на ўраджаі лёну. Пры пасеве лёну на завапнаваным вучастку—валакно атрымоўваецца дрэннай якасьці, зьніжаецца моц самага валакна. Пасеў лёну на завапнаваную глебу ў першы год не ўтвараць, а высяваць пасьля некалькіх год вапнаваньня. У шматгадовым севазвароце гэта робіцца вельмі проста і лёгка.

### Азоцістыя ўгнаеньні

Гэтая група мінэральных угнаеньняў атрымала такую назву таму, што ў сваім складзе яна мае азот і адносіцца гэтая група да няпоўных угнаеньняў. Іх патрэбна ўносіць поўную колькасьць. Калі мы будзем уносіць больш, чым патрабуе глеба, то можам атрымаць нават дрэнныя вынікі. Пры вялікай дозе ўнясеньня азоцістых угнаеньняў павялічваецца сьцябло, а ня колькасьць валакна.

Да азоцістай групы ўгнаеньняў адносіцца сернакіслы амоні, які па якасьці ня ўступае азоцістаму ўгнаеньню чылійскай салетры. Серна-кіслы амоні вельмі дзейнічае на павялічэньне ўраджайнасьці лёну. Гэта тлумачыцца тым, што ён добра спажываецца глебаю. Сернакіслы амоні дзейнічае на ўраджайнасьць лёну на працягу ўсяго году. Уносіць яго на 1 *га* плошчы патрэбна ня больш 1 *цнт*. Калі лён сеецца на канюшынішчы, то тады зусім не патрэбна ўносіць сернакіслага амонія. Уносіць сернакіслы амоні ў глебу патрэбна за невялікі час да пасеву лёну. Сернакіслы амоні можна ўносіць з фосфарна-кіслымі або калійнымі ўгнаеньнямі.

### Калійныя ўгнаеньні

Калійныя ўгнаеньні маюць у сваім складзе калі. Яны адносяцца да няпоўных угнаеньняў. Да гэтай групы адносяцца сільваніт, калійная соль. Сільваніт мае ў сваім складзе да 15 проц. спажыўных матэрый, добра рашчыняецца ў вадзе. Уносіць яго ляпей увосень. Уносіцца на 1 *га* 2,5—4 *цнт*.

Калійная соль зьяўляецца ачышчаным сільванітам, якая ў сваім складзе мае ад 30 да 40 проц. калія. Уносіць яе на 1 *га* трэба ад 1,5 да 2 *цнт* за некалькі дзён да пасеву.

Акрамя сільваніта і калійнай солі патрэбна застанавіцца на дармовым угнаеньні—попеле. Драўляны попел мае да 10 проц. калія, а таксама невялікую колькасьць фосфару і вапны. Попел ад хваёвых дроў мае да 6 проц. калія, а ад грэчняй саломы мае да 24 проц.

Пры зьбіраньні попелу галоўная ўвага павінна быць зьвернута на добрае захаваньне яго. Попел павінен захоўвацца ў сухім месцы, бо замочаны попел траціць шмат спажыўных матэрый. Уносіць у глебу попел патрэбна за два або тры тыдні да пасеву. Уносіць яго на 1 *га* патрэбна да 10 *цнт*.

### Фасфарытная група ўгнаеньняў

**Фасфарытнымі** ўгнаеньнямі яны завуцца таму, што ў сваім складзе маюць фасфар. Да фасфарытных угнаеньняў адносяцца: супэрфасфат, фасфарытная мука, касьцяная мука, тамашлак.

**Супэрфасфат**—угнаеньне, якое лёгка раствараецца. Уносіць яго ляпей на глебах суглінкавых. На 1 *га* патрэбна ўносіць ад 2,5 да 3 *цнт*—у залежнасьці ад процантнага трыманьня фосфару. Засыпаецца ў глебу за 10 дзён да пасеву.

**Фасфарытную муку** трэба ўносіць на глебы кіслыя, тарфяныя, забалочаныя. Уносіць фасфарытную муку трэба ўвосень на 1 *га* плошчы патрэбна ад 3,5 да 5 *цнт*.

**Касьцяная мука** ў сваім складзе мае да 22 проц. фасфарыту і да 4 проц. азоту. Касьцяную муку трэба ўносіць увосень. На 1 *га* патрэбна яе ад 2,5 да 5 *цнт*. Уносіць лепш на глебах лёгкіх, пясчаных і падзолістых.

**Тамашлак** зьяўляецца фосфарным угнаеньнем, які мае да 18 проц. фосфару. Тамашлак ляпей уносіць на глебах кіслых, пясчаных. Уносіцца ўвосень і вясною. Высяваецца на 1 *га* ад 2,5 да 4,5 *цнт*.

Тамашлак пры ўнясеньні ў глебу нельга зьмешваць з супэрфасфатам і сернакіслым амоніям.

Аграном **М. Маркавец**

# Як пратручваць насеньне паўсухім спосабам

Галаўня зьяўляецца зьлейшым ворагам збожжа. Барацьба, якая праводзіцца з галаўнёю ў нашых калектыўных гаспадарках, далёка яшчэ недастаткова.

У нашых умовах пратручваньне насеньня праводзіцца перад пасевам і пратручваецца ня больш, чым на 25 проц. (у сярэднім) усяго высяўнога матар'ялу пшаніцы, аўса, ячменю і пшана. Тлумачыцца гэта тым, што пратручваньне ў нас праводзіцца амаль выключна мокрым спосабам, а пры такім пратручваньні насеньне ня можа доўгі час знаходзіцца нявысееным і патрабуе значнага часу для прасушкі. З прычыны гэтага шмат калгасаў не

пасьпяваюць з гэтым мерапрыемствам. Вельмі зручны для буйных калектыўных гаспадарак зьяўляецца спосаб сухога пратручваньня насеньня таму, што такі спосаб не патрабуе шмат часу ў працэсе самога пратручваньня і не патрабуе сушкі насеньня. Але гэты спосаб распаўсюджваецца толькі на пшаніцу, на пратручваньне пленчатага-ж насеньня (ячмень, авёс, пшано) ён—ня ўжываецца.

Больш зручным спосабам у пратручваньні пленчатага насеньня зьяўляецца спосаб „паўсухога“ пратручваньня. Асаблівасьць гэтага спосабу ў тым, што ўжываецца больш моцная рошчына фармаліну. Насеньне зьлёгку змочваецца, а гэта дае магчымасьць амаль зусім ня траціць часу на прасушку. Вільготнасьць насеньня пры гэтым павышаецца ня больш як на 1—2 проц.

Для пратручваньня бярэцца 40 проц. фармаліну і разводзіцца ў 80 частках вады, гэта значыць на 1 літр фармаліну 80 літраў вады.

Насеньне для пратручваньня насыпаецца на ток, выбіты гліною, насеньне неабходна насыпаць прадаўгаватай кучай вышынёй 25—30 сантымэтраў. Прыгатаваную рашчыну наліць у садовы апырскавацель, якім і паліваць паверхню кучы. Пры адсутнасьці апырскваццеля можна ўжываць гародныя лейкі з сітам.

Пры паліўцы зьверху кучы рашчынай, неабходна насеньне добра вымешаць з мэтай раўнамернага разьмеркаваньня рашчыны. Пры паліўцы трэба дасканала разьлічыць выдаткаваньне рашчыны на колькасьць насеньня. Для гэтага патрэбна ўлічыць наступнае: пры пратручваньні ячменю на кожны цэнтнер павінна быць выдаткавана $1^1/_2$ літра рашчыны фармаліну. Для аўса ў два разы больш, г. зн. на цэнтнэр насеньня аўса патрэбна 3 літры фармаліну рашчыны.

Разам з паліўкай патрэбна рабіць вымешваньне. Для вытвару гэтай работы (калі насеньне будзе падвездзена ў гумно) дастаткова 2-х работнікаў, якія за 10 цігадзінны рабочы дзень могуць пратруціць да 40 *цнт* насеньня.

Калі скончылі вымешваць насеньне, яго пакідаюць у кучах, прычым куча ўжо робіцца вышэй, прыкладна да 50 сантымэтраў. Зьверху куча пакрываецца брэзэнтам або мяшкамі. У такім становішчы насеньне павінна знаходзіцца 4—5 гадзін. Пасьля гэтага зноў патрэбна вымешаць насеньне. Калі падрыхтавана поле, магчыма зараз-жа вытвараць пасеў. Калі пасеў мяркуецца не пазьней як праз два дні, насеньне можна ссыпаць у мяшкі, калі пасеў разьлічаны на пазьнейшы час—насеньне павінна знаходзіцца ў кучах, таўшчынёй ня больш 25 сантымэтраў.

Больш 5—6 дзён гэтае насеньне нявысеяным трымаць нельга.

Практыка мокрага і паўсухога пратручваньня паказала, што перавагу патрэбна аддаць апошняму—паўсухому. Паўсухое пратручваньне дае больш гарантыі на зьнішчэньне галаўні. Акрамя таго дае значную палёгку ў тым, што не патрабуе прасушкі насеньня і дае магчымасьць высеву насеньня заразжа пасьля пратручваньня.

Аграном **М. Харытановіч.**

# ПОЎНАСЬЦЮ ВЫКАРЫСТАЦЬ БУЛЬБАСАРТОЎКУ

У многіх саўгасах і калгасах бульба займе звыш 20 проц. ад усяе пасеўнае плошчы. У якасьці пасеўнага матар'ялу будзе патрэбна шмат бульбы, якую неабходна сартаваць там, дзе яна не сартавалася з восені. Для сартаваньня бульбы патрэбна шмат рабочых рук, калі сартаваньне рабіць ручным спосабам.

Сартаваньне лёгка магчыма зрабіць з дапамогаю бульбяной сартоўкі, якая вырабляецца на заводзе Гомсельмаш

Для атрыманьня добраякаснага сартаваньня патрэбна круціць ручку сартоўку няшпарка (30 абаротаў у мінуту). Пры павялічэньні ліку абаротаў якасьць сартаваньня пагаршаецца.

Вытворчасьць сартоўкі за гадзіну пры 30 абаротах ручкі будзе ня менш **паўтары тоны**. Пры павялічэньні ліку абаротаў вытворчасьць сартоўкі магчыма павялічыць у 2 разы, але якасьць сартаваньня значна пагоршыцца—самы дробны сорт будзе пападаць у сярэдні і нават у буйны і сорт сярэдні таксама ў значнай частцы апынецца у буйным сорце.

У часе сартаваньня лёгка адкінуць гнілую бульбу рукамі.

Для абслугоўваньня бульбяной сартоўкі патрэбна 3 чалавекі: адзін круціць ручку, другі насыпае бульбу ў кош сартоўкі і трэці зьменьвае скрынкі, калі яны напоўняцца і, ссыпае бульбу ў мяшкі. Гэты-ж чалавек адкідае гнілыя бульбіны.

Скрынак неабходна мець ня менш трох, а лепш іх мець 6, каб ня спыняць работы сартоўкі на час аслабаненьня скрынкі.

Рабочыя на працягу работы мяняюць свае месцы, дзякуючы чаму яны ня будуць стомлівацца.

Сыпаць бульбу ў сартоўку неабходна патроху, каб адначасова ў аднэй частцы барабану не зьбіралася многа бульбы, бо гэта пагоршыць якасьць сартаваньня.

Сартоўку трэба паставіць на роўным месцы і ў час работы змазваць, прычым змазка падшыпнікаў вала барабана вельмі прастая, у час работы трэба падкручваць крышкі тавотніц, у якія накладаецца густая мазь—салідол, а вось малой шасьцёркі, якая ня мае сваей тавотніцы, а толькі адну дзірку, трэба змазваць часьцей.

**А. Афонскі.**

**Адказныя рэдактары: С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 823. 1.600 экз. Уп. Галоўлітбелу № а2




| | | | |
|---|---|---|---|
| На 12 мес. | —24 | нумары | 3 р. |
| „ 6 | „ —12 | „ | 1 р. 50 к. |
| „ 3 | „ 6 | „ | — 75 к. |
| „ 1 | „ 2 | „ | — 25 к. |

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ

Адрас рэдакцыі часопісу:
гор. МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 6